24 жніўня 2018 | № 30 (593)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

**СССР разваліў Чабурашка?**
Стар. 9

ISSN 2218-2144
novychas.by
АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА •ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ














# Новы ўрад: бязлітасны і бессэнсоўны

## Трэба не кадрамі займацца, а бульбу капаць



Сяргей ПУЛЬША

Шматлікія эксперты не перастаюць варажыць, чаго чакаць ад новага ўраду, апантаныя эканамісты выдаюць парады Румасу, з нагоды новага кабіміну спрачаюцца нават бабулі на лавах ля пад'езда.

Як па мне, дык усё гэта — бессэнсоўная валтузня. Ці, як кажа наш правадыр, «мышкаванне». Лепей бы заняліся нечым больш карысным.

Так, замест Кабякова прыйшоў Румас. Кажуць, ён «рыначнік» і банкір. Ну і што? Рыначнікам і банкірам ён быў на пасадзе віцэ-прэм'ера ў 2010–2012 гадах. Кажуць, тады ён вельмі спрачаўся наконт уключэння грашовага станка ў час крызісу 2011 года з памочнікам Лукашэнкі па эканоміцы Сяргеем Ткачовым. Які вынік тых спрэчак? Выкід пустых грошай на «подкуп выбаршчыкаў» у 2010 годзе адгукнуўся тым самым валютным крызісам і ці не самай катастрафічнай дэвальвацыяй у 2011-м, пасля чаго ўрад — і Румас у тым ліку — пайшоў у адстаўку.

Гэта азначае што? Дэ-факта, гэта азначае, што ні на што, апроч спрэчак, наш урад не ўплывае.

Возьмем, да прыкладу, папярэдні ўрад Кабякова. Гэты ўрад быў прызначаны пасля такога ж валютнага крызісу 2014 года, амаль пад Новы год, 27 снежня. Што добрага ці дрэннага адбылося з таго часу? Чым гэты ўрад запомніцца?

За гэты час была да адназначнай велічыні ўтаймаваная інфляцыя і праведзена дэнамінацыя, у выніку чаго ў нас з'явіліся манеты. Але гэта, хутчэй, заслуга не ўрада, а Нацыянальнага банка, які праводзіць даволі жорсткую манетарную палітыку. Манеты і інфляцыя — гэта іх дасягненні, а не ўрада.

У час прэм'ерства Кабякова быў распрацаваны і паспяхова сканаў падатак на дармаедства. Разумныя людзі адразу пасля з'яўлення гэтай ідэі казалі: такая схема працаваць не будзе. Але ідэя сыходзіла персанальна ад Аляксандра Рыгоравіча, і ўрад, нават разумеючы ўсю яе нягегласць і абсурднасць, узяўся за яе рэалізацыю. Да чаго гэта прывяло — усім вядома.

«За Кабяковым» быў падпісаны дэкрэт аб развіцці лічбавай эканомікі і чарговы дэкрэт аб лібералізацыі ўмоваў вядзення бізнесу. Зноў жа, Кабякоў і Ко маюць да гэтых дакументаў дачыненне толькі апасродкаванае. Галоўны і асноўны крок зрабіў кіраўнік дзяржавы.

Пры гэтым мы, шчыра кажучы, пакуль не бачым істотных вынікаў ані ад першага, ані ад другога дакумента, хаця падпісаныя яны былі 9 месяцаў таму, а ўступілі ў дзеянне ўжо паўгода як.

Дык чым нам запомніцца прэм'ерства Кабякова? У чым заслуга ўжо мінулага Саўміну альбо яго правалы? А ні ў чым. Апроч дзіравага даху на адным з аршанскіх прадпрыемстваў.

Ці ёсць падставы меркаваць, што вынікі дзейнасці ўраду Румаса будуць значна лепшымі (ці горшымі), чым вынікі амаль чатырохгадовай працы ўрада Кабякова?

Скажам шчыра — падстаў ніякіх. Па-першае, усе рашэнні ў краіне прымае адзін чалавек. Усе мы гэтага чалавека ведаем, і гэта не Румас. Па-другое, прызначаючы новы ўрад, кіраўнік краіны сказаў адкрытым тэкстам: ніякіх рэформаў, ніякай шокавай тэрапіі. Развівайце, што ёсць, працягвайце мадэрнізацыю, і гэтак далей. А гэта азначае, што карт-бланш на рэформы, на рэалізацыю сваіх ідэй урад Румаса не атрымае.

Па-трэцяе, сам Румас, прадстаўляючы калектыву Міністэрства эканомікі іх новага кіраўніка, зазначыў: «Я чакаю ад вас і ад вашай каманды новых ідэй… Разам з тым мне вельмі б хацелася, каб новыя прапановы не былі чыста тэарэтычнымі і адарванымі ад жыцця, а каб яны выдатна спалучаліся з нашай рэчаіснасцю і ўкараненне іх не прыводзіла да нейкіх шокаў».

Па факце гэта азначае, што Румас, можа быць, і ведае варыянты выхаду Беларусі на нармальны шлях развіцця эканомікі. Але ўсе гэтыя інструменты шокавыя, а іншых ідэй у яго няма. Вось ён і звяртаецца па дапамогу да Мінэканомікі. А калі ў прэм'ера ад пачатку няма ідэй, і ён просіць іх збоку — гэта нармальна?

У нашых умовах — нармальна, бо Румасу адразу пастаўленая невыканальная задача: і каб працавала эканоміка, і вырас дабрабыт насельніцтва, і каб нічога ў эканоміцы не змянілася.

Калі ж новы прэм'ер раптам узбрыкне і пачне ажыццяўляць «шокавыя» ідэі, то яго «банкірства» апынецца не плюсам, а мінусам. У нашай рэальнасці менавіта банкір лягчэй за ўсіх аказваецца на лаве падсудных. Асабліва, калі гэта былы кіраўнік Банку развіцця, які, па патрабаванні зноў жа Лукашэнкі, фінансаваў знакамітыя стратныя дзяржпраграмы ў галіне мадэрнізацыі і АПК. Тут заўсёды знойдзецца, да чаго прычапіцца.

Так што ніякіх зрухаў ці прарываў ад ураду Румаса чакаць не даводзіцца. Хутчэй за ўсё, новы ўрад — чарговы «хлопчык для біцця» напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2020 года. Тады кіраўнік Беларусі ў чарговы раз «адставіць» урад і спіша на гэтых нібыта «рыначнікаў» усе правалы.

Бадай, адзінае, што Румас можа цяпер зрабіць, — гэта ажыццявіць сваю даўнюю мару і запусціць у Беларусі айчынны спартыўны тэлеканал. Але ці гэтага чакаюць ад прэм'ера?



# Беларусы дапамагаюць сям'і з Лоева

**Жыхарка Лоева Алеся Фаміных чакае вяртання свайго 3-месячнага сына, якога забрала ў прытулак дзяржава — праз беднасць бацькоў. Пасля артыкула на «Радыё Свабода» неабыякавыя арганізацыі і беларусы дапамаглі бацькам.**

### Хто і як дапамог?

*Юрыдычна.* Праваабаронца Леанід Судаленка дапамог Алесі Фаміных скласці скаргу на імя старшыні Лоеўскага райвыканкаму Веранікі Байковай — на дзеянні камісіі па справах непаўналетніх.

«Справа ідзе аб неканстытуцыйным адабранні дзіцяці з сям'і. Такое адабранне магчымае толькі па судовай санкцыі. Тут суд не дазваляў забіраць 3-месячнага хлопчыка, а чыноўнікі скарысталіся Дэкрэтам №18. Ён супярэчыць Канстытуцыі», — кажа праваабаронца.

У скарзе маладая маці просіць райвыканкам адмяніць рашэнне і вярнуць Максіма, а таксама зняць з бацькоў статус «абавязаных асобаў».

Леанід Судаленка нагадаў, што міжнароднае права забараняе ўсе віды дыскрымінацыі, у тым ліку па маёмаснай прыкмеце. Менавіта праз беднасць чыноўнікі адабралі дзіця.

Маладую сям'ю ўжо наведалі судовыя выканаўцы, якія абавязалі Алесю і Андрэя выплаціць сумарна дзяржаве 280 рублёў за ўтрыманне іх сына ў Доме дзіцяці.

*Маральна.* «Мне тэлефанавалі шмат людзей, выказвалі падтрымку, абураліся дзеяннямі чыноўнікаў, абяцалі дапамагчы грашамі і рэчамі», — зазначыла Алеся.

*Матэрыяльна.* Многія людзі адгукнуліся на патрэбы маладой сям'і і пералічылі грошы на рахунак Алесі. Мясцовая ўлада запатрабавала, каб сям'я палепшыла жыллёвыя ўмовы, змяніла газавую пліту, правяла водаправод. Алеся і яе грамадзянскі муж Андрэй зрабілі сціплы рамонт, адрамантавалі печку і комін, набылі калыску, вазок, дзіцячыя рэчы, новую пліту. На водаправод не хапіла грошай, таму што дзяржава абавязала бацькоў аддаваць грошы на ўтрыманне Максіма ў Доме дзіцяці.

На правядзенне водаправоду 21 жніўня сродкі пералічыла Дабрачынная каталіцкая місія «Карытас-Міласэрнасць».

«Rotary Club Minsk City» цяпер займаецца зборам гуманітарнай дапамогі для сям'і — прадуктаў, цёплых рэчаў для дзіцяці і маці, абутку, гігіенічных сродкаў.

«Да верасня мы прывязём дапамогу сям'і. Таксама мы будзем непасрэдна размаўляць з органамі апекі на тэму, як можна сістэмна падыйсці да вырашэння пытання "стварыць усе неабходныя ўмовы для знаходжання кожнага дзіцяці з маці"», — сказала старшыня «Rotary Club Minsk City» Алена Бандарэнка.

### Чыноўнікі наведалі сям'ю з чарговай камісіяй

21 жніўня дом Алесі і Андрэя зноў наведала камісія з выканкаму. Паводле Алесі, чыноўнікі абяцалі, што як толькі да дому будзе падведзеная вада — Максіма аддадуць. Мясцовыя камунальныя службы абяцаюць, што ўжо 22 жніўня пачнуць працы па правядзенні водаправоду.

На пытанне «Свабоды», ці аддадуць Алесі Фаміных дзіця, калі ў дом правядуць водаправод, намесніца старшыні камісіі па справах непаўнагадовых Лоеўскага райвыканкаму Людміла Жураўская адказала, што ніякіх каментараў даваць не будзе.

«Гэта тычыцца прыватнага жыцця канкрэтнай сям'і, таму я нічога казаць не буду. Усе мы на працоўных месцах», — заўважыла чыноўніца.

Да цяжарнасці Алеся працавала прыбіральшчыцай, атрымлівала 200 рублёў. Яе грамадзянскі муж Андрэй не працаваў, стаяў на ўліку ў цэнтры занятасці. На новай працы, куды малады чалавек уладкаваўся рабочым, ён мае заробак каля 200 рублёў. З гэтых грошай павінен цяпер аддаваць 70% на ўтрыманне сына.

Чыноўнікі наракалі на «запушчаны агарод». У Алесі была складаная цяжарнасць, яна шмат разоў ляжала ў бальніцы. Пасля ў нованароджанага выявілі парок сэрца — таму маці з сынам больш за два месяцы правялі ў бальніцы. Потым Максіма забралі ў Дом дзіцяці. Цяпер маладой маці дазваляюць бачыць малога толькі паўгадзіны на дзень.

Максім па рашэнні Лоеўскага райвыканкаму зрабіўся «непаўналетнім, які мае патрэбу ў дзяржаўнай абароне», сям'я — «сацыяльна праблемнай», бацькі — «абавязанымі асобамі».

**Паводле «Радыё Свабода»**



# Дармаедскія камісіі: вяртанне ў Сярэднявечча?

Мікалай ДЗЯДОК

**Участковыя камісіі па вызначэнні «дармаедскага» статусу грамадзян будуць вырашаць, хто знаходзіцца ў «цяжкіх асабістых абставінах» і можа быць вызвалены ад аплаты паслуг па поўным кошце.**

Гэтае знакамітае фота можа стаць сапраўдным сімвалам дармаедскага дэкрэту. На ім адлюстраваны патэрн узаемаадносінаў паміж уладай і насельніцтвам: усёмагутныя начальнікі і маўклівыя падначаленыя. І патэрн гэты яшчэ больш замацоўваецца са стварэннем дармаедскіх камісій, якія ўжо складзеныя ў шэрагу рэгіёнаў Беларусі.

У іх будуць уваходзіць старшыні адміністрацый рознага ўзроўню, ідэолагі, міліцыянты, падаткавікі, галоўныя ўрачы, кіраўнікі дзяржаўных прадпрыемстваў. Карацей, прыкладна ўсё тыя ж «байцы дзяржаўнага фронту».

Ва ўсім гэтым больш за ўсё абурае сам ход мыслення ўлады і яе прынцыповыя допушчэнні: адных грамадзян, фармальна роўных па Канстытуцыі, надзяляюць правам вырашаць лёс іншых, і не проста ў нейкай асобнай прававой сітуацыі (як з судом ці міліцыяй), а надзяляюць іх правам перасунуць чалавека ў іншую сацыяльную касту — «дармаедаў», што азначае аўтаматычную сацыяльную стыгму і фінансавы цяжар. Пытанне: на якой падставе гэтым людзям — хай і надзеленым уладай у межах сваіх паўнамоцтваў — надаецца права вызначаць сацыяльны статус іншага чалавека?

Да таго ж гэты сацыяльны статус з'яўляецца, як ужо сказана, сапраўднай стыгмай. Паняцце «дармаеда» на сёння моцна крыміналізаванае дзяржавай (аб чым, дарэчы, ужо даўно кажуць праваабаронцы). На гэта працуюць перадачы па тэлебачанні, дзе людзей без працы выстаўляюць у выключна негатыўным выглядзе, абавязковыя згадкі «нигде не работающий» у выпадках, калі трэба сапсаваць уражанне пра чалавека, і псеўдамудрыя сентэнцыі прапагандыстаў аб тым, што той, хто не плаціць падаткі са сваёй працы, — паразіт на целе грамадства.

Гэты дыскурс працуе на ўстойлівую крыміналізацыю цэлага пласту насельніцтва, і нават больш за тое: складае нейкае падабенства саслоўнага грамадства накшталт сярэднявечнага, дзе знаходжанне ў пэўнай сацыяльнай страце (слаі) амаль цалкам вызначала твой далейшы лёс у грамадстве.

Улада вырашаць, хто да якога саслоўя належыць, дадзеная вузкай групе людзей — мякка кажучы, не спецыялістаў у сацыяльных пытаннях, якія будуць выслухоўваць запэўніванні, просьбы і мальбы працоўных і ўчорашніх студэнтаў. А выслухаўшы, вырашаць, чыё жыццёвае становішча сапраўды цяжкае, а хто можа і пацярпець. Гэта, акрамя іншага, азначае і тое, што людзям давядзецца вывальваць перад незнаёмымі дзядзькамі і цёткамі падрабязнасці свайго асабістага жыцця. А нехта будзе вырашаць: ёсць трэцяе пазашлюбнае дзіця маладой маці «цяжкімі жыццёвымі абставінамі» ці не.

Не варта і казаць, што грамадзяне, западозраныя ў нелаяльнасці да мясцовай улады, вясковыя і пасялковыя «бузацёры», якія мелі неасцярожнасць калісьці перайсці дарогу начальству, і, канешне, палітычныя актывісты будуць пазбаўленыя нават найдрабнейшага права на царскую ласку.

Да чаго прывядзе практыка гэтых камісій? Ідэя надзяляць вышэйшых у іерархіі людзей вызначаць сацыяльны статус ніжэйшых — увогуле мала стасуецца не толькі з прынцыпам роўнасці ўсіх перад законам, але і з дэклараванымі (але даўно занядбанымі) праклямацыямі «сацыяльнай дзяржавы».

Саслоўнасць беларускага грамадства ад дзейнасці такіх апрыёры несправядлівых інстытуцый адразу паглыбіцца. Беднасць, наадварот, узрасце, бо можна не сумнявацца, што камісіям будзе дадзены загад эканоміць бюджэтныя грошы і не надта лаяльнічаць з «дармаедамі».

І, канешне, такія сітуацыі толькі павялічаць узровень азлобленасці ў грамадстве і нянавісць адных грамадзян Беларусі да другіх.

# Беларусы могуць застацца без падпрацоўкі

Яўген ФЁДАРАЎ

**Чыноўнікі хочуць караць прадпрыемствы, якія плацяць зарплаты ніжэй за «мінімалку».**

Згодна з пастановай Саўміна, з 1 студзеня будучага года ўзмоцніцца кантроль за арганізацыямі, якія плацяць сваім супрацоўнікам менш за 305 рублёў. Для гэтага працадаўцы штоквартальна будуць прадастаўляць дадзеныя аб суме выплат, а не раз на год, як цяпер.

Як у каментары «Салідарнасці» адзначыў сустаршыня Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва Віктар Маргелаў, у гэтым нову́вядзенні «ёсць і чорныя, і белыя фарбы».

— Ёсць структуры, якія на самай справе плацяць нізкія заробкі, — заўважае ён. — Але тут могуць быць розныя выпадкі. Гэта могуць быць, напрыклад, не зусім камерцыйныя арганізацыі ці фірмы, якія выконваюць сезонныя працы. У гэтых выпадках сярэдняя зарплата можа апынуцца ніжэй за ўстаноўлены ўзровень. Але ў гэтым нічога страшнага няма.

А ёсць камерцыйныя прадпрыемствы, якія плацяць зарплаты ў канвертах. Яны супрацоўнікам плацяць мінімум, а эканамічныя вынікі маюць нядрэнныя. І тут самая важная задача — адрозніць першых ад другіх.

Мацней за ўсё рашэнне ўрада можа ўдарыць па беларусах, якія працуюць па сумяшчальніцтве, а таксама па пенсіянерах, студэнтах або маці, якія знаходзяцца ў дэкрэтным адпачынку. Менавіта гэтыя катэгорыі грамадзян часцей за ўсё шукаюць працу ў рэжыме падпрацоўкі.

— Калі гэты момант не ўлічаць і пачнуць прасаваць, тады фірмы проста будуць адмаўляцца ад падпарцоўшчыкаў, і наогул ад часовых работнікаў. Будуць трымаць мінімальную колькасць людзей, каб у іх быў вышэй заробак. Вось і ўсё. У гэтым выпадку могуць пацярпець звычайныя людзі, якія застануцца без падпрацоўкі або часовага працоўнага месца, — адзначае Віктар Маргелаў.

**«Салідарнасць», пераклад НЧ**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Грошы і лічбы

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Адной з прэтэнзіяў, якую Лукашэнка выказаў адстаўленаму ўраду Кабякова, сталася тое, што ён (урад) не выканаў даручэння дасягнуць «усім па пяцьсот». Кіраўнік Беларусі прызнаўся, што прапанова тысячу рублёў сярэдняга заробку выклікала ў Саўміне Кабякова «паніку». Але ці трэба нам тыя «па 500»?**



Малюнак www.delovoysaratov.ru

Днямі Белстат апрылюднiў цікавую статыстыку. Чвэрць працуючых беларусаў зарабляюць тыя самыя сакральныя тысячу і больш рублёў. Дакладней — 25,7%. Да 400 рублёў (няшчасныя дзвесце долараў, па выказваннях Лукашэнкі ў Оршы) атрымліваюць 15,3% грамадзян. Ад 400 да 600 рублёў — заробак 23%. Ад 600 да 800 атрымліваюць 20,6%, і ад 800 да 1000 — 15,4%.

Між іншым, выклікае пытанне адзін момант. Гэтыя разлікі, якія здзейснілі айчынныя сацыёлагі, — разлікі яшчэ травеньскага заробку. А ўжо амаль верасень. Чаму так марудна працуе Белстат? Узнікаюць розныя канспіралагічныя версіі. Можа быць, таму, што заробак у нас выплачваецца са спазненнем і нерэгулярна? Ці таму, што травеньскія лічбы — найбольш аптымістычныя, без уліку сезону адпачынкаў і гэтак далей?

Але не гэта галоўнае. Размовы пра «сярэдні заробак па краіне ў тысячу рублёў» і «усім па 500» спецыялісты — напрыклад, старшы аналітык «Альпары» Вадзім Іосуб — называюць узорам папулізму і «блытанінай у паказаннях». Па тэлевізары гэта, можа быць, гучыць і добра, але трэба ўрэшце зразумець, што «сярэдняя зарплата» і «усім» — гэта не адно і тое ж.

Пакуль што беларуская эканамічная мадэль нагадвае мадэль краінаў «трэцяга свету», дзе багатыя багацеюць, а бедныя бяднеюць. Таму можна дасягнуць і «сярэдняга заробку» ў тысячу рублёў. Але тады 5% багатых будуць атрымліваць звышпрыбыткі, а 70% апынуцца за рысай галечы. «У сярэднім» ва ўсіх будзе па тысячы. Выглядаць яно будзе даволі прыстойна, і даручэнне кіраўніка дзяржавы, нібыта, выканана. Але ж фішка ў тым, што яно будзе менавіта «выглядаць».

«Павелічэнне сярэдніх заробкаў адбываецца за кошт тых, у каго і без таго зарплаты высокія, вышэй сярэдніх. У шырокіх слаёў насельніцтва даходы не асабліва і растуць, а па адносінах да сярэдняй зарплаты нават зніжаюцца. Гэта натуральная тэндэнцыя для бедных краін, для неэфектыўных эканомік, для дзяржаў, дзе сацыяльныя пытанні толькі дэкларуюцца, а не вырашаюцца», — кажа на гэты конт Іосуб.

Што ж тычыцца старой мантры «ўсім па 500», то гэта таксама не праблема. Але ўрад Кабякова разумеў, што галоўнае, насамрэч, — не лічба. Галоўнае — тое, што мы зможам набыць на гэтыя «500». Можна, напрыклад, запусціць друкарскі станок, і забяспечыць гэтыя «500», урэшце. Але мы ўсе на ўласнай скуры гэта праходзілі не адзін раз — вынікам будзе інфляцыя, дэвальвацыя і іншыя малапрыемныя рэчы. І ў выніку на гэтыя грошы мы набудзем значна менш, чым на сённяшнія 350–400.

Тым больш, што падобныя працэсы ідуць у Беларусі натуральным чынам. На жаль, я не пра павышэнне заробку, а пра інфляцыю. Днямі пра павышэнне тарыфаў абвясцілі нашы тэлекамунікацыйныя гіганты. Кошты паслуг сувязі ў аператара Velcom павышаюцца на 2,9%. На такія ж працэнты павышаецца і кошт сувязі ў МТС. Пра павышэнне (не ўдакладняючы, на колькі) кошту інтэрнэту абвясцiў «Белтэлекам», праўда, паабяцаўшы, што стацыянарную тэлефонную сувязь гэта не закране.

Лічбы павышэння, здавалася б, невялікія. Але ўсё адно гэта непрыемна — асабліва ў тыя часы, калі большасць беларусаў занятыя падрыхтоўкай дзяцей да школы.

Маштабны разнос, учынены Аляксандрам Рыгоравічам падчас візіту ў Оршу, даў яшчэ адзін нечаканы вынік. Магілёўскі гарвыканкам абвясціў месячнік па навядзенні парадку: з 20 жніўня па 19 верасня ў гэтым абласным цэнтры пройдуць чатыры суботнікі запар.

На думку старшыні Магілёўскага гарвыканкама Уладзіміра Цумарава, традыцыйнага агульнагарадскога суботніка гэтым разам Магілёву не хопіць. Тым больш, што ў кастрычніку там павінен прайсці Форум рэгіёнаў Беларусі і Расіі з удзелам Лукашэнкі і Пуціна. «Не сакрэт, што мы гэта робім у тым ліку ў рамках падрыхтоўкі да Форуму, але перш за ўсё мы гэта робім для саміх сябе, каб зрабіць горад больш камфортным і прывабным для гасцей і турыстаў», — перадае словы Уладзіміра Цумарева БелТА.

Сярод пляцовак, дзе будуць працаваць магілёўцы, — парк у Падніколлі і вуліца Якубоўскага. Абодва пункты два гады таму раскрытыкаваў Лукашэнка і запатрабаваў навесці «глянец і гармонію».

Чатыры суботнікі за месяц — гэта гарадскі рэкорд. Раней праводзілі не больш за два. Да таго ж, узнікае лагічнае пытанне: а што гарадскія ўлады ўсе гэтыя два гады, якія прайшлі з часу крытыкі кіраўніком дзяржавы, рабілі? Проста забыліся на яго словы? Альбо, як у Оршы, «сабатавалі даручэнні»? Ці выдаткоўваліся грошы на тое добраўпарадкаванне, і куды яны падзеліся, калі зараз магілёўцы павінны ў свой вольны час бясплатна дапамагаць гарвыканкаму вырашыць праблему?

Але ж на тыдні ёсць і пазітыўныя навіны. Як паведаміла на прэс-канферэнцыі ў Мінску начальнік упраўлення выдавецкай і паліграфічнай дзейнасці Мініінфармацыі Алена Паўлава, колькасць кніг, выдадзеных на беларускай мове ў першым паўгоддзі бягучага года, павялічылася на 15% у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года, перадае БЕЛТА.

«За першае паўгоддзе бягучага года на беларускай мове выдадзены 643 кнігі і брашуры агульным накладам 2 мільёны 123 тысяч экземпляраў. У параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года іх колькасць павялічылася адпаведна на 15% і 2,6%», — паведаміла Паўлава.

Кнігі на беларускай мове ў агульным аб'ёме займаюць 18,2% па накладу. Такім чынам, амаль кожная пятая кніга выдаецца ў нас на беларускай мове. Усяго за студзень-чэрвень выдадзена прыкладна 4,7 тысячы кніг агульным накладам 11 мільёнаў 700 тысяч экземпляраў.

На вялікі жаль, не прыводзіцца іншая статыстыка: колькі беларускамоўных кніг было выдадзена прыватнымі, і колькі дзяржаўнымі выдавецтвамі. Тады б можна было палічыць, хто больш патрыятычны ў краіне, і зрабіць выснову, як дзяржава ставіцца да захавання і ўдасканалення беларускай мовы.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Алесь Бяляцкі

**Незарэгістраваны ўладамі праваабарончы цэнтр «Вясна» абвясціў марафон салідарнасці з палітвязнямі Беларусі.**

Тыдзень падтрымкі палітычных вязняў Беларусі праходзіць з 20 па 25 жніўня. На працягу гэтага часу можна наведаць офіс праваабаронцаў і падпісаць паштоўкі, якія адправяць палітвязням.

Акрамя таго ў Мінску прайшла прэзентацыя гісторый палітычных зняволеных з усяго свету, а таксама гутарка з былымі беларускімі вязнямі сумлення.

Цяпер у беларускіх турмах знаходзяцца два чалавекі, якія прызнаныя вязнямі сумлення міжнароднай супольнасцю. Гэта Дзмітрый Паліенка і Міхаіл Жамчужны

Дзмітрыя Паліенку асудзілі на 2 гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай у кастрычніку 2016-га за нібыта напад на міліцыянта падчас веласіпеднага прабегу «Крытычная маса», які прайшоў у Мінску. У мінулым годзе Паліенку зноў арыштавалі: суд адмяніў адтэрміноўку і адправіў Дзмітрыя адбываць рэшту тэрміну ў Бабруйскую калонію. Міжнародная праваабарончая арганізацыя Amnesty International прызнала Паліенку вязнем сумлення.

Заснавальнік «Платформ інавэйшн» Міхаіл Жамчужны ў ліпені 2015 года быў асуджаны Віцебскім абласным судом на 6,5 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму. Яго прызналі вінаватым нібыта ў падбухторванні да наўмыснага разгалошвання звестак, якія складаюць службовую таямніцу; незаконным набыцці і збыце спецыяльнага тэхнічнага сродку, прызначанага для сакрэтнага атрымання інфармацыі; у дачы хабару.



## Ганна Канапацкая

**Дэпутатка і рух «Наперад, Беларусь», які яна стварае, вырашылі звярнуцца ў Канстытуцыйны суд з нагоды прызначэння новага прэм'ера.**

Паводле меркавання Ганны Канапацкай, працэдура зняцця ўраду Кабякова і прызначэнне прэм'ерам Сяргея Румаса парушаюць Асноўны закон краіны. Справа ў тым, што, паводле Канстытуцыі, згодна з артыкуламі 84 і 106, прызначэнне кіраўніка ўраду адбываецца толькі са згоды парламента. Між тым, парламент на пазачарговую сесію не збіраўся і, адпаведна, згоды на новага прэм'ера не даваў.

«18 жніўня 2018 года ўказам №327 без узгаднення з Палатай прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь быў прызначаны прэм'ер-міністр, што з'яўляецца грубым парушэннем Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, а менавіта артыкулаў, якія вызначаюць парадак прызначэння прэм'ер-міністра. Савет Рэспубліканскай Грамадзянскай кампаніі «Наперад, Беларусь!» патрабуе неадкладна прызнаць страціўшым сілу ўказ №327 ад 18 жніўня 2018 года, аднавіць канстытуцыйную законнасць у Рэспубліцы Беларусь і правесці прызначэнне прэм'ер-міністра ў строгай адпаведнасці з Канстытуцыяй», — сказана ў заяве Савета кампаніі.

Канапацкая размясціла гэтую заяву ў сябе на старонцы ў Фэйсбуку з каментарам, што па факце парушэння парадку прызначэння прэм'ера яна рыхтуе зварот у Канстытуцыйны суд.



## Аляксей Бага

**Падначаленыя беларускага трэнера — БАТЭ — прайгралі галандскаму ПСВ 2:3. Але здабылі даволі нечаканую іміджавую перамогу.**

Бага па выніках матчу сказаў, што задаволены гульнёй сваіх футбалістаў, і яны зрабілі ўсё, што маглі. «Задаволены той падзеяй, якую мы перажылі сёння. Ліга чэмпіёнаў — гістарычная падзея, як бы вы ні яхідНічалі ў адносінах да БАТЭ. Калі хтосьці паўторыць тое, што барысаўчане робяць 10 гадоў, я каля ГУМа кульнуся!» — паабяцаў Бага.

І нарэшце іміджавай перамогі. Паводле твітара ItalianFUTrader, барысаўскі БАТЭ уключаны ў спіс каманд футбольнага сімулятара FIFA–2019. У гэтым сезоне ў кампутарнай гульні будуць прадстаўленыя ўсе клубы, якія выйшлі ў асноўную сетку Лігі Еўропы і Лігі чэмпіёнаў. Акрамя БАТЭ, новымі камандамі ў FIFA–2019 сталі «Краснадар» (Расія), «Ворскла» (Украіна), «Відзі» (Венгрыя), «Црвена Звезда» (Сербія) і «Яблонец» (Чэхія). Выхад рэлізу FIFA–2019 запланаваны на 28 верасня.

а | Азбука паліталогіі

# «Аршанская бітва»

**Беларуская мадэль, якая адмаўляе грамадзянскай супольнасці ў праве на існаванне, скача ў будучыню на адной назе.**



Сяргей НІКАЛЮК

«Усе аўтарытарныя лідары, — сцвярджае расійскі публіцыст Барыс Гразоўскі, — у нейкі момант губляюць сувязь з рэальнасцю. Нават калі пачатак праўлення быў шматабяцальным, у пэўны момант яны пачынаюць паводзіць сябе неадэкватна. Насельніцтва плаціць за гэта альбо жыццямі, альбо стратай дабрабыту».

Першы від плацяжу для беларусаў пакуль яшчэ не актуальны, чаго, на жаль, не скажаш пра другі. Звернемся да афіцыйнай статыстыкі. Тры пяцігодкі беларуская мадэль генеравала двухзначны рост рэальных наяўных грашовых даходаў насельніцтва. Але за кошт чаго былі дасягнуты такі поспех і чаму рост змяніўся падзеннем? Тлумачэнне аўтараў мадэлі не выходзіць за рамкі падручніка па сацыяльнай псіхалогіі для першакурснікаў: рост быў забяспечаны правільнасцю абранага курсу, падзенне — знешнімі неспрыяльнымі абставінамі.

На такім узроўні тлумачэння рэальнасці працуе афіцыйная беларуская навука. Адкрываем, напрыклад, манаграфію «Каштоўнасны свет сучаснага чалавека», падрыхтаваную сацыёлагамі БДУ ў 2009 годзе. Поспехі беларускай мадэлі аўтары манаграфіі наўпрост звязваюць з перамогай на першых прэзідэнцкіх выбарах «маладога незалежнага палітыка»: «Менавіта ён здолеў у далейшым забяспечыць і стабілізацыю палітычнай сітуацыі, і эканамічны рост».

Згодна з аўтарскай мадэллю, постсавецкія дзяржавы ў сваім развіцці праходзяць тры этапы:

- **Пошукавы этап.** На дадзеным этапе фармуюцца дзяржаўныя структуры кіравання і новыя палітычныя інстытуты, вызначаюцца шляхі станаўлення і развіцця дзяржавы і грамадства. Для гэтага этапу характэрныя сацыяльныя катаклізмы, радыкальнае супрацьстаянне палітычных груповак, незадаволенасць грамадзян сваім жыццём і г. д.
- **Стабілізацыйны этап.** Этап узмацнення аўтарытэту ўлады і паступовага паляпшэння жыцця грамадзян. Для яго характэрныя прадуманыя дзеянні органаў сацыяльнага кіравання, паступовае павышэнне ўзроўню бяспекі і спакою ў грамадстве і паступовае ўмацаванне дэмакратычных інстытутаў.
- **Устойлівы этап.** Для дадзенага этапу характэрныя высокі ўзровень і якасць жыцця грамадзян, іх абсалютная ўпэўненасць у заўтрашнім дні.

У 2009 годзе Беларусь замацавалася на стабілізацыйным этапе. Да трэцяга этапу заставалася рукой падаць. Аднак з пачатку 2011 года нешта (а дакладней, усё) пайшло не так, і замест абяцанага высокага ўзроўню жыцця і ўпэўненасці ў заўтрашнім дні для большасці грамадзян зноў наступіў знаёмы па «ліхіх дзевяностых» этап нездаволенасці сваім жыццём.

Вось на гэтым фоне і адбылася знакавая падзея ў гісторыі беларускай мадэлі — «аршанская бітва», і толькі на першы погляд яна скончылася пераканаўчай перамогай яе ініцыятара.




## Дзе ж ты быў раней?

На думку палітолага Паўла Усава, магчымыя два тлумачэнні «аршанскай бітвы»: «Сабатаж і параліч кіравання звязаныя з банальна-традыцыйным няўменнем эфектыўна працаваць. Або прычына ў тым, што чыноўнікі чуюць «вецер пераменаў», які дзьме з усходу, і ўразлівасць Лукашэнкі, якая таксама павялічваецца. А гэта значыць, што яго ўказанні можна ігнараваць. Сістэма пачынае даваць рэгулярныя збоі — і ён гэта разумее, гэта яго пачынае моцна напружваць. Разборкі ў Оршы — гэта спроба паказаць, што ён яшчэ ў стане кіраваць і кантраляваць».

**Роля грамадзянскай супольнасці зведзеная ў беларускай мадэлі да мінімуму, і ўся адказнасць за інавацыі ўскладзеная на чыноўнікаў. Але ці існуе ў прыродзе нешта больш несумяшчальнае, чым чыноўнік і ініцыятыва?**

Нескладана заўважыць, што трактоўка Усава мала чым адрозніваецца ад трактоўкі адзінага палітыка (АП). Палітолаг кажа пра няўменне чыноўнікаў эфектыўна працаваць, АП — пра фармалізм, валакіту і пра адсутнасць сістэмы пры выкананні даручэнняў. Г.зн. уся справа ў выканаўчасці чыноўнікаў.

Думка не новая. Для таго, каб у гэтым пераканацца, дастаткова звярнуцца да тэкстаў пасланняў, з якімі АП звяртаўся да народа і дэпутатаў на працягу апошніх 2–3 гадоў. Усе яны ўтрымліваюць раздзел, прысвечаны павышэнню эфектыўнасці дзяржаўнага кіравання.

Абмяжуюся двума фрагментамі з Паслання–2017: «Ліберальны тэзіс аб тым, што органам улады трэба менш умешвацца ў эканамічныя працэсы, што рынак сам усё расставіць на свае месцы, не вытрымлівае ніякай крытыкі. Ідзе каласальнае пераасэнсаванне ўсяго таго, што адбываецца ў свеце, асабліва ў Еўрапейскім саюзе». «Актыўная роля дзяржавы — гэта важная ўмова ўстойлівага, збалансаванага развіцця краіны. Асабліва гэта тычыцца Беларусі, дзе менталітэт народа стагоддзямі фармаваўся пад уплывам ідэй моцнай дзяржаўнасці».

«Аршанскую бітва» і варта разглядаць у якасці прыкладу актыўнай ролі дзяржавы ў эканоміцы. Прыгледзімся да яе больш уважліва. На Аршанскім інструментальным заводзе рабочыя працуюць на станках, «якім не адзін дзясятак гадоў». Як і чаму склалася такая сітуацыя, растлумачыць ніхто не бярэцца. Дый асаблівага сэнсу ў гэтым ужо няма, бо АП вырашыў праблему на вачах у тэлегледачоў за дзве хвіліны.

У Аршанскім раёне (хто б мог падумаць!) маецца станкабудаўнічы завод «Чырвоны барацьбіт», дырэктар якога пацвердзіў «здольнасць свайго прадпрыемства аператыўна паставіць большасць неабходнага абсталявання». Скарыстаўшыся такім падарункам лёсу, АП «даручыў арганізаваць прамыя закупкі неабходнага абсталявання як у названага прадпрыемства, так і іншых айчынных вытворцаў, а па імпарту набыць толькі тое, што яны не змогуць паставіць».

Не ўзнікла праблем з тэрмінамі пастаўкі і з цаной. Пастаўкі пачнуцца «з сённяшняга дня па існуючых цэнах».

Вось гэта па-нашаму! Лібералы прысаромленыя. З моманту распаду СССР кіраўніцтва Аршанскага інструментальнага завода сумесна з адміністрацыямі ўсіх узроўняў і чальцамі ўрада марнавалі сябе чаканнямі ад рынку, які павінен быў сам усё расставіць па сваіх месцах. Але дні складаліся ў тыдні, тыдні — у месяцы, месяцы — у кварталы, гады і дзесяцігоддзі... І так аж да 13 жніўня 2018 года, аж да дзвюх гістарычных хвілін, на працягу якіх АП прадэманстраваў актыўную ролю дзяржавы ў развіцці айчыннай інструментальнай вытворчасці.

«Дзе ж ты раней быў, калі я была дзяўчынкай?» — такімі словамі адна мая знаёмая пракаментавала гэтую гістарычную падзею.

## Дзве нагі і тры ножкі

Краіны-лідары, сцвярджае расійскі публіцыст Георгій Сатараў, «з'яўляюцца пешаходамі на дзвюх нагах». Першая нага — досыць эфектыўная дзяржава (улада), другая — развітая грамадзянская супольнасць. У кожнай нагі — свая функцыя. Дзяржава адказвае за падтрыманне стабільнасці, грамадзянская супольнасць забяспечвае адаптыўнасць да знешніх і ўнутраных выклікаў.

Будучыня прынцыпова непрадказальная, таму жорсткія дзяржаўныя структуры не могуць ёй даць рады. Тут будзе дарэчы ўзгадаць гісторыю галоўнага дзяржаўнага інвестыцыйнага праекта коштам у 10 мільярдаў долараў — беларускую АЭС. Тэрмін увядзення першага энергаблока ўжо не за гарамі, а ніхто яшчэ так і не здолеў уцямна растлумачыць АП, «як станцыя будзе ўбудаваная ў эканоміку краіны».

Але вернемся да Сатарава: «Хаатычная разнастайнасць грамадзянскай супольнасці спараджае запас інавацый — тэхнічных, сацыяльных, культурных, — што робіцца рэзервуарам, з якога чэрпаюцца рашэнні ў надыходзячай будучыні або генеруюцца бягучыя рашэнні. <...> Калі выказацца мовай тэорыі гульняў: у гульца з выпадковай стратэгіяй не можа выйграць ніякая дэтэрмінаваная рацыянальная стратэгія; шанец ёсць толькі ў альтэрнатыўнай выпадковай стратэгіі. Яе забяспечвае грамадзянская супольнасць».

Нескладана заўважыць, што беларуская мадэль скача ў будучыні на адной назе. Роля грамадзянскай супольнасці зведзеная ў ёй да мінімуму, і таму ўся адказнасць за інавацыі ўскладзеная на чыноўнікаў. Але ці існуе ў прыродзе нешта больш несумяшчальнае, чым чыноўнік і ініцыятыва? Пытанне рытарычнае, і прыклад Оршы тут толькі пацвярджае агульнае правіла.

З дапамогай амерыканскага эканаміста Мансура Олсана ад дзвюх ног пяройдзем да трох ножак. У сваёй кнізе «Улада і росквіт» ён тлумачыць, што стандартная тэорыя рынкаў абмяжоўваецца апісаннем попыту і прапановы, і таму нагадвае табурэтку з дзвюма ножкамі. Класікі эканамічнай навукі ў трэцяй ножцы не мелі патрэбы, бо апісвалі эканамічныя адносіны паспяховых краін. Аднак усе спробы апісаць эканамічныя рэаліі краін трэцяга свету, у тым ліку і посткамуністычных, да поспеху не прыводзілі. Тэарэтычныя канструкцыі, якія абапіраюцца выключна на попыт і прапанову, аказваліся незбалансаванымі.

Для паспяховага развіцця патрэбная трэцяя ножка ў выглядзе грамадзянскай супольнасці. На яе развіццё і варта было накіроўваць асноўную энергію галоўнага архітэктара беларускай мадэлі. Але на працягу амаль чвэрці стагоддзя ён рабіў дакладна наадварот. Адсюль і вынік, які перастаноўкі чыноўнікаў не выправяць.

**СЯРЭДНЕГАДАВЫЯ ІНДЭКСЫ ПРЫРОСТУ (ЗНІЖЭННЯ) РЭАЛЬНЫХ НАЯЎНЫХ ГРАШОВЫХ ДАХОДАЎ НАСЕЛЬНІЦТВА, %**

| 1991–1995 | 1996–2000 | 2001–2005 | 2006–2010 | 2010–2015 | 2016–2017 |
|---|---|---|---|---|---|
| -10,2 | 14,0 | 12,4 | 11,9 | 6,8 | -2,7 |

# Дзяржава выціскае сваіх працаздольных грамадзян у іншыя краіны

Зінаіда ЦІМОШАК

**Быць грамадска актыўным чалавекам нялёгка. Асабліва, калі на цябе пачынаюць ціснуць. Звальненне з працы цяжка перажыць нават у горадзе, дзе адносна шмат працоўных прапаноў. У вёсцы ж страта працы прымушае чалавека шукаць і іншае месца жыхарства.**

**А што рабіць, калі ў тваёй сям'і трое дзяцей і вось-вось на свет з'явіцца чацвёрты?**



Жанна Сімановіч з мужам і дзецьмі



Мікалай Смірноў — крайні справа. Пачатак 2000-х гадоў. На мітынгу ў Мінску

Жанна Сімановіч, якая чакае чацвёртае дзіця, лічыць, што яе мужа, Рамана Сімановіча, звольнілі з працы ў ААТ «Праснакі» Капыльскага раёна з-за яе грамадскай актыўнасці.

— Наша сям'я пацярпела з прычыны маёй барацьбы за існаванне дзіцячага садка, — гаворыць шматдзетная маці. — Дзіцячы садок я адстаяла, але з мужам, былым галоўным эканамістам ААТ «Праснакі», не падоўжылі кантракт. Малады спецыяліст з вышэйшай эканамічнай адукацыяй вымушаны працаваць качагарам узімку, а летам ахоўваць кароў. Да мужа ніякіх прэтэнзій падчас працы эканамістам не было. Але яго нават не ўзялі на працу бухгалтарам, калі ўзнікла вакансія. Муж — веруючы чалавек, грамадска не актыўны. Але ён сумленны, не зможа зрабіць які-небудзь падлог альбо прыпісаць на паперы ўдоі ці прывесы.

Таксама мясцоваму кіраўніцтву магла не спадабацца і актыўная перапіска Жанны з вышэйшым начальствам з прычыны гвалтоўнага звальнення Рамана. Да таго ж яе маці, Ніна Смірнова, не так даўно адстойвала ФАП ды шчыравала за рамонт дарогі да крамы.

Маці Жанны, нягледзячы на інваліднасць і цяжкія хваробы, настроеная аптымістычна.

— Дасць Бог, сям'я дачкі не прападзе. Галоўнае, што зяць — добры чалавек, не п'е, любіць дзяцей, клапоціцца пра сям'ю. Будзем з мужам дапамагаць, чым зможам. Муж зараз з'ехаў на заробкі ў цывілізаваную краіну, дапамагае маладой сям'і.

Быў час, калі Ніна Смірнова і яе муж Мікола Смірноў таксама былі вымушаны шукаць іншае месца жыхарства з-за сваёй грамадскай актыўнасці. Мікола Смірноў стварыў у канцы 1990-х гадоў у вёсцы Вежы Слуцкага раёна суполку Беларускага незалежнага прафсаюза. Амаль два дзясяткі рабочых саўгаса на працягу двух гадоў паспяхова адстойвалі правы на дастойную працу і адпачынак. Яго жонка ў гэты час арганізавала сярод вясковых жанчын суполку Беларускай арганізацыі працоўных жанчынаў, распаўсюджвала сярод сельскіх працаўнікоў газеты «Рабочы» і «Салідарнасць».

**Дырэктар саўгаса Васіль Ачапоўскі быў зацікаўлены толькі ў адным — каб уся сям'я Смірновых як мага хутчэй пакінула саўгас. Таму ахвотна выкупіў іх кватэру, а яны пераехалі ў Слуцк**



Ніна Смірнова

Палітычнае жыццё ў Вежах тады віравала, як у сталіцы. У 1999 годзе шмат сябраў Вежскай жаночай арганізацыі сталі ўдзельніцамі выбарчых камісій розных узроўняў падчас альтэрнатыўных выбараў, якія праводзіў Віктар Ганчар. Школьнікі выязджалі на аздараўленне ў краіны Еўрасаюза, ажыццяўлялі турыстычныя паездкі, у вёсцы быў заснаваны клуб выбаршчыкаў, праводзіліся семінары, дзіцячыя канцэрты. Механізатары атрымлівалі бясплатна рабочае адзенне, дадатковую аплату працы за выходныя дні, рыхтаваліся назіраць за прэзідэнцкімі выбарамі 2001 года. І ўсё гэта рабілася на грамадскіх пачатках, пад пільным кантролем уладаў, занепакоеных такім ажыўленым грамадскім жыццём аграгарадка.

Напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2001 года пачаліся заходы для таго, каб гэта сям'я пакінула Вежы. Спачатку ўзяліся за гаспадара. Кіраўніка вясковага прафсаюза і кіроўцу аўтамабіля гвалтоўна перавялі ў паляводы. Калі ж ён адмовіўся выходзіць на палявыя работы — звольнілі за прагулы. Пасля ўспомнілі і пра жонку, якая 8 гадоў беззаганна адпрацавала прыбіральшчыцай на механізаваным двары.

— Усе ведаюць, як працуюць прыбіральшчыцы, — кажа Ніна Анатольеўна. — Прыйшла, навяла парадак за некалькі гадзін і пайшла. Заробак мізэрны, але збіраецца працоўны стаж і ёсць вольны час, у які можна падзарабіць капейчыну. Мяне ж прымушалі знаходзіцца на саўгасным стане поўны 8-гадзінны працоўны дзень. Калі я аднаго дня сышла з працы раней — звольнілі за прагул. Пасля майго звальнення ніхто не прымушаў прыбіральшчыцу, якая прыйшла на маё месца, адпрацоўваць 8 гадзін.

Некалькі месяцаў абодва бацькі двух дзяцей прасядзелі без працы. На першы час выжыць дапамагалі грамадскія арганізацыі — Беларуская арганізацыя працоўных жанчын (БАПЖ), «Вясна–96», «Хартыя–97». Я ўсвой час збірала для сям'і грашовыя ахвяраванні на мітынгах у Мінску.

Дырэктар саўгаса Васіль Ачапоўскі быў зацікаўлены толькі ў адным — каб уся сям'я Смірновых як мага хутчэй пакінула саўгас. Таму ахвотна выкупіў іх кватэру, а яны пераехалі ў Слуцк. Колькі ні спрабавала жанчына ўладкавацца на працу ў Слуцку — не атрымлівалася. Аддзелы кадраў непакоіў артыкул звальнення. Патрымаўшы ў руках працоўную кніжку з запісам пра вальненне за прагул, Ніне Смірновай адмаўлялі ў працы. Тое ж некаторы час адбывалася і з працаўладкаваннем яе мужа. Толькі дзякуючы сур'ёзнаму знаёмству яму ўдалося ўладкавацца загадчыкам вясковага камбіната бытавога абслугоўвання. Заробак у камбінаце быў сімвалічны, але ў працоўнай кніжцы з'явіўся прыстойны запіс, які «пагасіў» артыкул. Дапамагалі не памерці з голаду і вернікі хрысціянскай абшчыны пяцідзясятнікаў, бо абое актывісты сталі вернікамі.

Пасля Мікалай працаваў некаторы час кіроўцам у геолагаразведцы, у будаўнічай фірме, прарабам у калгасе. Заснаваў у Капыльскім раёне індывідуальнае сантэхнічнае прадпрыемства. Высветлілася, што работы па падводцы каналізацыі і вады ў глыбінцы шмат, але для добраўпарадкавання сялянскіх і дачных сядзіб у вяскоўцаў адсутнічаюць грошы.

— Я ж перанесла стрэс, захварэла, — прадоўжыла распавядаць жанчына. — Зараз — інвалід першай групы. На пенсію, дзяржаўныя дзіцячыя субсідыі, заробак беларускага сантэхніка і заробак зяця-вартаўніка пражыць цяжка, таму Мікалай, які мае добрыя рукі, з'ехаў на заробкі ў Польшчу.

— Вось так дзяржава выціскае сваіх працаздольных грамадзян у іншыя краіны, — робіць выснову Ніна Анатольеўна.

Па яе словах, мужу вельмі падабаецца жыць і працаваць у Польшчы. Падабаецца культура жыцця палякаў, ветлівае стаўленне да рабочых з боку кіраўніцтва фірмы і адсутнасць страху перад кіраўніцтвам краіны і працадаўцамі.

Пакуль цесць працуе ў Польшчы і зарабляе на сям'ю, яго зяць з беларускімі дыпломамі бухгалтара і эканаміста, бацька траіх сыноў і будучага чацвёртага, добрасумленна сочыць за калгаснымі каровамі, каб іх ніхто не скраў. З'ехаць з краіны і пакінуць жонку адну з маленькімі дзецьмі ён не можа, бо хоча ўдзельнічаць у гадаванні і выхаванні сваіх маленькіх дзяцей. Яго жонка, Жанна Сімановіч, хоць і канстатуе, што «ў нашай краіне ўсё, што павінна быць па закону, патрэбна выдзіраць», але не зацікаўленая ў ад'ездзе ў іншую краіну. Яна хоча, каб сыны раслі там, дзе нарадзіліся, і мае намер рабіць свой унёсак у змены да лепшага.




Працоўная кніжка Ніны Смірновай

# 1968: «Пражская вясна» і

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Увод войскаў у Чэхаславакію дзеля абароны «заваёваў сацыялізму» горача вітаўся насельніцтвам Беларусі. Дзяржаўная прапаганда працавала як мае быць. Лісты працоўных, ветэранаў, выступы журналістаў. Нават Сямён Шарэцкі праявіў сябе як «эксперт па пражскіх падзеях». Але былі і смельчакі, якія выступілі супраць...**

21 жніўня 1968 года жыхары Беларускай ССР даведаліся пра тое, што, маўляў, дзяржаўныя і партыйныя дзеячы Чэхаславакіі звярнуліся да краінсяброў Варшаўскай дамовы па дапамогу ў абароне сацыялізму, у тым ліку і ўзброеным сіламі. У выніку воінскія часткі сацыялістычных краін (Балгарыя, Венгрыя, ГДР, Польшча, СССР) уступілі ў Чэхаславакію «ва ўсе вобласці і гарады», у тым ліку ў Прагу і Брасціславу.

Улады БССР запэўнівалі насельніцтва, што рашэнне аб уводзе войскаў быццам бы знаходзіцца ў поўнай адпаведнасці з правам дзяржаў на індывідуальную і калектыўную самаабарону, прадугледжаным у саюзніцкіх дамовах, заключаных паміж «брацкімі сацыялістычнымі краінамі».

Савецкія СМІ па-фарысейску сцвярджалі, што воінскія падраздзяленні СССР разам з кантынгентам саюзных сацыялістычных краінаў будуць неадкладна выведзены з ЧССР, як толькі пагроза заваёвам сацыялізму, якая ўзнікла, будзе ліквідавана.

Камуністычная прапаганда абрынулася з разгромнай крытыкай на «антысацыялістычныя элементы» ў Чэхаславакіі, якія арганізуюць правакацыйныя выступленні на вуліцах, раскідваюць паклёпніцкія ўлёткі і ажыццяўляюць палітыку імперыялістычных колаў. Да таго ж, падпольныя радыёстанцыі, як сцвярджала савецкая агітацыя, перадавалі заявы, якія заклікалі Чэхаславакію да выхаду з Варшаўскай дамовы, да абвяшчэння ЧССР нейтральнай дзяржавай.

Неўзабаве ўслед рушыў зварот урадаў (Саветаў Міністраў) Балгарыі, Венгрыі, ГДР, Польшчы і СССР да грамадзян ЧССР — «братоў чэхаў і славакаў». У звароце сцвярджалася, што ў складанай міжнароднай сітуацыі контррэвалюцыянеры, кіруючыся агрэсіўнымі дзеяннямі амерыканскага імперыялізму і рэваншысцкіх колаў ФРГ, імкнуліся «вырваць» Чэхаславакію з садружнасці сацыялістычных дзяржаў.

### «Адзінства і згуртаванасць»

Моцная прапагандысцкая машына БССР была кінутая на тое, каб даказаць насельніцтву і грамадскасці неабходнасць




**Варшаўская дамова. Савецкі агітацыйны плакат часоў БССР.**
Крыніца: Нацыянальная бібліятэка Беларусі

агрэсіі. Ужо 23 жніўня 1968 года ў Мінску адбыўся сход актыву абласной партыйнай арганізацыі. З дакладам выступіў сакратар ЦК КПБ Фёдар Сурганаў. Сход аднадушна падтрымаў увод войск сацыялістычных краін у ЧССР і выказаў задаволенасць захадамі, накіраванымі на рашучую барацьбу за справу сацыялізму ў Чэхаславакіі. Такія ж сходы адбыліся ў Віцебску, а таксама ў брэсцкім Доме палітычнай адукацыі.

У Нацыянальным архіве захаваўся ліст камуніста Піменава ў ЦК КПСС і ЦК КПБ аб неабходнасці адраджэння Камуністычнага інтэрнацыянала ў сувязі з пражскімі падзеямі.

Да прапаганды была падключана інтэлігенцыя. Адзін з першых на старонках прэсы выступіў сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Міхаіл Ткачоў — былы партызан, баец дыверсійна-падрыўнога атрада. Ткачоў адзначаў наступнае: «Сегодня странами социализма чехословацкому народу оказана действенная помощь. Контрреволюционным силам не удастся использовать процесс демократизации в чехословацком обществе в своих черных целях. Чехословакия сама, опираясь на помощь своих настоящих друзей из социалистического содружества, преодолевая трудности, пойдёт вперёд в свой завтрашний, лучший день! Пойдём, ибо мы, ей, своей сестре, помогаем в этом».

«Правільным шагом» назваў сацыялістычную агрэсію супраць ЧССР знакаміты беларускі дзеяч, дыпламат, сябар беларускай дэлегацыі ў Сан-Францыска ў 1945 годзе Фрол Шмыгаў (на момант задушэння «Пражскай вясны» — рэктар Мінскага педагагічнага інстытута замежных моваў): «Мы, советские люди, горячо поддерживаем это мероприятие, направленное против происков империалистов. Разобьём их коварные замыслы, правое дело строительства социализма в Чехословакии восторжествует».

Распаўсюджаны з'явай сталі лісты працоўных буйных прадпрыемстваў рэспублікі. Вось што пісаў токар МАЗа Шумскі: «Мы, автозаводцы, единодушно одобряем решение СССР и других

# «Дунай» і «гібрыдныя войны»:

Раман ЯКАЎЛЕЎСКІ,
спецыяльна для «Новага Часу»

**Аперацыі «Дунай» — такім было кодавае найменне ўварвання войскаў СССР і краін — сяброў Арганізацыі Варшаўскай дамовы (Балгарыі, Венгрыі, ГДР і Польшчы) у Чэхаславакію. Румынія адмовілася тады ўдзельнічаць у гэтай аперацыі Крамля.**

Правядзенне аперацыі было ўвасабленнем у жыццё так званай Дактрыны Брэжнева, або Дактрыны абмежаванага суверэнітэту. Яна палягала ў тым, што былы Савецкі Саюз мог умешвацца ва ўнутраныя справы краінаў сацыялістычнага блока, каб забяспечваць стабільнасць палітычнага курсу, накіраванага на цеснае супрацоўніцтва з Масквой. Асаблівая ўвага пры гэтым надавалася інтэнсіфікацыі курса ваеннага супрацоўніцтва.

Штосьці падобнае ў палітыцы Крамля назіраецца і сёння, калі шырокі набор інструментальных ваенных сродкаў сталі



Прага 1968

Фота www.http://fakeoff.org

называць «гібрыдным». Некаторыя крыніцы прыпісваюць аўтарства «гібрыдных войнаў» цяперашняму начальніку расійскага Генштаба генералу-танкісту Валерыю Герасімаву. У адрозненне ад тых, хто прыехаў у Прагу на танках, яго салдаты ўзялі Крым без адзінага стрэлу. Менавіта пасля крымскага бліцкрыгу ў постсавецкіх суверэнных дзяржавах і сталіцах ЕС/NATO моцна заклапаціліся ноу-хау генерала Герасімава наконт абмежавання суверэнітэту.

А напярэдадні 50-годдзя ўварвання ў Чэхаславакію ў Мінску некаторыя прыгадалі пра генерала Трафімава, які непасрэдна курыраваў аперацыю «Дунай». У сваіх мемуарах былы кіраўнік БССР і намеснік старшыні саюзнага Саўміна Кірыл Мазураў прызнаўся, што гэтым генералам быў ён сам. Усе данясенні ішлі на імя «генерала Трафімава», і распараджэнні былі ад яго імя. «Але ніхто не ведаў, хто я такі, паручнік Кіжэ», — успамінаў Мазураў. Ні аднаго сур'ёзнага рашэння вайскоўцы не маглі прыняць без кансультацый з «генералам Трафімавым», задача якога заключалася ў тым, каб не дапусціць эскалацыі супрацьстаяння. Таму што сітуацыя часам складвалася няпростая — былі і ахвяры.

Варта адзначыць, што вальнадумства ў істэблішменце Чэхаславакіі, што так напалохала Маскву, пачалася задоўга да абрання Аляксандра Дубчака першым сакратаром кіруючай кампартыі. Аб флуктуацыях у брацкай партыі павінен быў дакладваць яшчэ і іншы беларус, добра вядомы ў Мінску Міхаіл Зімянін. Цэлых пяць гадоў ён працаваў у Празе на пасадзе пасла СССР, а затым быў галоўным рэдактарам газеты «Праўда», якая і стала асноўным ідэалагічным рупарам, што асуджаў рэвізіянізм КПЧ Дубчака.

Так што беларускія таварышы непасрэдна знаходзіліся ў пражскай тэме і да, і пасля савецкага ўварвання. І тут, можа быць, дарэчным было б прыгадаць яшчэ адну падзею, звязаную з Беларуссю.

Сярод войскаў, якія тады былі накіраваныя на задушэнне «Пражскай вясны», была і 120-я гвардзейская стралковая Рагачоўская Чырванасцяжная, ордэнаў Суворава і Кутузава дывізія, якая базавалася ў раёне Уручча пад Мінскам. У 1968 годзе ёй камандаваў генерал-маёр Міхаіл Зайцаў. Па словах таварышаў па службе, у жніўні камандзір атрымаў загад рушыць у Чэхаславакію, але так і не змог яго выканаць. Дывізія дайшла да савецкай мяжы, аднак была вымушаная вярнуцца на свае зімовыя кватэры пад Мінскам. Прычына гэтага — масавая дызентэрыя, якая ахапіла палкі і батальёны ды ператварыла дывізію ў недзеяздольнае злучэнне. Гэты канфуз, нярэдкі ў розных вайсковых гісторыях, не перашкодзіў генералу-танкісту пазней стаць камандуючым Беларускай вайсковай акругай і атрымаць званне Героя Савецкага саюза. Вось і ўся гісторыя чэхаславацкага паходу слаўнай дывізіі з Уручча.

Пасля таго, як 21 жніўня 1968 года войскі некалькіх дзяржаў Варшаўскай дамовы ўварваліся на тэрыторыю Чэхаславакіі, яе прэзідэнт генерал Людвіг Свобада аддаў арміі загад не аказваць супраціву, каб не дапусціць паўтарэння крывавых падзей восені 1956 года ў Будапешце. Тым не менш, жыхары чэшскіх і славацкіх гарадоў супраціўляліся пасіўна: зрывалі ўказальнікі, мянялі месцамі знакі, каб абцяжарыць рух вайсковых калон, блакавалі ваенную тэхніку, спрабавалі пераканаць вайскоўцаў арміі ўварвання павярнуць назад. Як ні дзіўна, чэхі і славакі не былі ўзлаваныя. Яны былі

# камуністычная Беларусь

социалистических стран об оказании братскому чехословацкому народу помощи, включая помощь вооружёнными силам». Газеты надрукавалі амаль аднолькавыя па змесце лісты слесара-зборшчыка Віцебскага станкабудаўнічага завода імя Камінтэрна Багданава, старшага майстра ткацкага цэха Гродзенскага тонкасуконнага камбіната Куляшова і іншых.

Беларуская савецкая прэса арганізавала шмат лістоў удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны — непасрэдных удзельнікаў вызвалення Чэхаславакіі ад гітлераўцаў: Савелава (маёр у адстаўцы, персанальны пенсіянер, 146-я артылерыйская брыгада), Шабалюка (працоўны саўгаса «Брэсцкі», 320-ы полк 7-й асобай супрацьтанкавай брыгады) і іншых.

## Будзьце пільныя!

Пад такім дэвізам 27 жніўня 1968 года ў Мінску адбыўся сход сталічных журналістаў. У ім прынялі ўдзел прадстаўнікі выдавецтва «Ураджай», газет «Советская Белоруссия» і «Чырвоная змена», а таксама Беларускага радыё. Журналісцкі сход аднадушна прыняў рэзалюцыю, у якой канстатавалася, што па планах імперыялізму ў брацкай Чэхаславакіі нанесены «сакрушальны ўдар». Рэзалюцыя асудзіла «рэнегатаў» — шэраг чэхаславацкіх журналістаў, якія «перабеглі на бок рэакцыі».

Сход заявіў, што ў гібелі савецкіх журналістаў Карла Напомняшчага і Аляксандра Зварыкіна вінавата «подлая рука рэакцыі» (сёння вядома, што верталёт з савецкімі журналістамі і прапагандысцкай літаратурай, якія разбіўся ў ЧССР 24 жніўня 1968 года, меў тэхнічную няспраўнасць).

А таксама... Сямён Шарэцкі.

Шмат хто і дагэтуль памятае старшыню апошняга беларускага Вярхоўнага Савета 13-га склікання (1996 год) Сямёна Георгіевіча Шарэцкага. У тым незабыўным 1968-м Шарэцкі займаў пасаду старшыні калгаса «Зорка» Навагрудскага раёна. Старшыня альбо сам, альбо па разнарадцы на старонках «Советской Белоруссии» выступіў «экспертам» па пражскіх падзеях. Прыгадаўшы пра тое, што быў у Чэхаславакіі тры гады таму і ўбачыўшы, як «с огромным интересом и радостью воспринимали чехословацкие крестьяне живое слово о жизни в нашей стране, о великой победе колхозного строя», Шарэцкі пісаў: «Необходимо дружно выступить на защиту завоеваний социализма в ЧССР. Все, кому дороги всемирно-исторические завоевания Октября, у кого на знамени написано заветное слово "коммунизм", не останутся равнодушными к проискам реакции».

## Строга сакрэтна!

Дзяржаўнае і партыйнае кіраўніцтва Беларускай ССР пільна сачыла за настроямі насельніцтва падчас драматычных жнівеньскіх падзей 1968 года. У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь захаваўся адпаведны пласт дакументаў.

У цэлым можна канстатаваць адабрэнне большасцю насельніцтва БССР агрэсіі супраць Чэхаславакіі. Канешне, сваю справу рабіла прапаганда, аднак у памяці людзей яшчэ жылі жахі Вялікай Айчыннай вайны. Нездарма партыйныя і сілавыя органы фіксавалі «повышенный спрос на товары первой необходимости (сахар, соль, спички и др.) в некоторых районах Брестской, Гродненской, Витебской и Минской областях». Таксама адзначалася, што ў шэрагу раёнаў Гомельскай і Брэсцкай абласцях, «наблюдается приток покупателей из Украины».

Жыхары Мінскай, Гомельскай і Гродзенскай абласцей таксама нерваваліся з-за частковай мабілізацыі вайсковаў запасу.

Работніца Гомельскай люстэркавай фабрыкі Шаўчэнка на пасяджэнні парткама справіла сапраўдны скандал: «В Чехословакии идёт настоящая война. Там мой сын, наших бьют, а вы скрываете это».

Таму яны свята верылі, што ўвод войск у Прагу жыццёва неабходны дзеля захавання міру. 26 жніўня 1968 года сакратар ЦК КПБ Сурганаў дакладваў, што 22 вайскоўца Беларускай ваеннай акругі (БВА) падалі рапарты аб накіраванні іх у ЧССР. Па сакрэтных звестках, «сообщения ТАСС о гибели в ЧССР советских военнослужащих оставляют глубокий след в сознании белорусских воинов».

## Пытанні, пытанні

Штатныя прапагандысты пры абмеркаванні пражскіх падзей пры сустрэчах з насельніцтвам атрымоўвалі шмат пытанняў. Лісты з пытаннямі ішлі ў дзяржаўныя і партыйныя органы. Яны тычыліся пагрозы новай вайны, ахвяраў з боку савецкіх войск падчас пражскіх падзей, лёсу Дубчака і іншых дзеячаў «Пражскай вясны», пазіцыі ААН, Румыніі, Албаніі, Югаславіі. Улічваючы тагачасныя савецка-кітайскія адносіны, мелі месца пытанні наконт Маа Цзэдуна.

## І ўсё ж не ўсе згодныя!

Той жа Сурганаў 26 жніўня адзначаў: «В целом в республике обстановка нормальная, здоровая. Антисоветские высказывания носят единичный характер, в основном осуществляются лицами, ранее себя скомпрометировавшими, судимыми, бывшими немецкими прислужниками».

Так, 24 жніўня 1968 года, па звестках спецорганаў, «на адреса восьми жителей Минска по почте направлены анонимные записки, которые содержат злобную клевету на руководителей партии и правительства и призыв к советским людям выступить с требованием о выводе советских войск из Чехословакии. Листовки исполнены от руки карандашом под копирку на половине листа ученической тетради печатными и рукописными буквами».

Архіўныя дакументы захавалі і імёны смельчакоў. Інжынер па тэхніцы бяспекі перасоўнай механізаванай калоны №1 Галоўнага ўпраўлення энергетыкі і электрыфікацыі пры Саўміне БССР Грынберг: «Придумали Ленина и молятся на него как на дьявола. Лезем, куда не надо, а сами как живем!? Я хотел бы жить так, как живут безработные в Америке». Працоўны Вілейскай фабрыкі Піроэкнікаў: «Мы нарушаем демократию, вмешиваясь в дела других стран. Пусть чехословацкий народ сам решает свои дела». Радавы вайсковец БВА Акулаў: «Куда мне ехать, что я буду наводить порядок в Чехословакии, зачем она мне нужна, когда в моём доме не все в порядке».

## Новае ярмо

Пасля задушэння «Пражскай вясны» беды Чэхаславакіі, на жаль, не скончыліся. 16 кастрычніка 1968 года ЧССР была вымушана заключыць дамову з СССР аб умовах часовага знаходжання на яе тэрыторыі Узброеных Сіл Савецкага Саюза. Паводле дамовы, савецкія войскі пакідаліся для абароны сацыялізму ў ЧССР ад рэваншысцкіх памкненняў заходнегерманскіх колаў, між іншым як войскі іншых сацыялістычных краін выводзіліся.

«Это единственно правильное решение. В нём мы видим новое явление пролетарского интернационализма, могучий удар по антисоциалистическим силам, грозное предупреждение реакции», — з упэўненасцю казаў старшыня калгаса імя Жданава Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці таварыш Серадзюк.

Выратаванне ад камуністычнай навалы Чэхаславакія мусіла чакаць яшчэ дваццаць гадоў...

# успаміны пра будучыню

здзіўленыя і збянтэжаныя, але не ўзлаваныя, адзначаюць многія відавочцы тых падзей.

Тым не менш, жыхары Чэхіі дагэтуль востра рэагуюць на савецкае ўварванне. У 2008 годзе 64% рэспандэнтаў казалі, што да гэтага часу не даравалі гэта Маскве. Праз дзесяць гадоў сітуацыя асаблівa не змянілася. Цэнтр даследаванняў грамадскай думкі ў траўні гэтага года апублікаваў дадзеныя апытання, згодна з якімі 76% чэхаў негатыўна ацэньваюць тагачасныя падзеі.

Сёння зноў можна пачуць спробы адказаць на пытанне: чаму Чэхаславакія тады не аказала ўзброенага супраціву? І сярод адказаў можна пачуць, што чэхі не любяць жорсткіх канфрантацый. У палітыцы яны заўсёды імкнуліся дзейнічаць стрымана. Ваенны супраціў савецкай танкавай армадзе быў бы бессэнсоўным. Ды і значная частка іх партыйнага кіраўніцтва была настроеная прамаскоўскі. А так праз 20 гадоў усё змянілася бяскроўна. Хаця многія пацярпелі: засталіся без працы, былі рэпрэсаваныя, вымушаныя былі з'ехаць з Чэхаславакіі.

Цікава, што вядучыя дзеячы «Пражскай вясны» беглі з краіны ў Бухарэст і Бялград, якія асудзілі агрэсію Масквы супраць Чэхаславакіі. А тыя, што засталіся, доўгія гады працавалі качагарамі, леснікамі (Дубчак) і г.д. Паводле некаторых дадзеных, КПЧ да 1968 года налічвала больш за 1 мільён 680 тысяч чальцоў і кандыдатаў. Аднак пасля падзей 1968 года з партыі былі выключаныя або выйшлі самі каля 460 тысяч чалавек. У ЧССР аднавіліся рэпрэсіі, якія практыкаваліся наступныя 20 гадоў — час, што быў названы новым кіраўніцтвам краіны перыядам «нармалізацыі, стабілізацыі».

Як вядома, савецкія войскі былі ўведзеныя ў Чэхаславакію ў ноч з 20 на 21 жніўня 1968-га, а 16 кастрычніка таго ж года была падпісана дамова паміж урадамі СССР і Чэхаславакіі аб стварэнні на тэрыторыі краіны Цэнтральнай групы войскаў. Штаб ЦГВ размяшчаўся недалёка ад Прагі, у чэшскім мястэчку Мілавіца. Але варта таксама нагадаць і тое, што Аляксандра Дубчака не спасціг трагічны лёс Імрэ Надзя, расстралянага ў свой час у Будапешце.

Нягледзячы на прызабытыя «падзеі ў Чэхаславакіі 1968 года» — так савецкі агітпроп называў усё тое, што адбылося з чэхамі і славакамі, — сёння яны могуць



Захоп Крыму

уяўляць пэўную цікавасць для аб'ектаў знешняй палітыкі Пуцінскай Расіі. Калі казаць пра суверэнную Беларусь, то да яе саюзніцкіх абавязальніцтваў у Крамлі ўсё больш выказваюць незадаволенасці, прэтэнзій. Вядома, яны не могуць датычыць нейкай «лібералізацыі», «дэмакратызацыі» папросту ў сілу прыроднага характару беларускага рэжыму.

Пра гэта гавораць такія знаўцы крамлёўскіх кулуараў, як, напрыклад, галоўны рэдактар радыёстанцыі «Эхо Москвы» Аляксей Венедыктаў, які часам, як ён кажа, «папівае віскі ў Крамлі». Паводле яго слоў, успрыманне Беларусі як кавалка, які выпадкова адкалоўся ад Расіі, «існуе ў галовах у нашых начальнікаў». І начальнікі заўсёды могуць перайсці да практычных дзеянняў. Прычым гаворка тут ідзе не пра прывідную Саюзную дзяржаву, а, канкрэтна, папросту пра ўступленне Беларусі ў склад Расійскай Федэрацыі. І, на думку маскоўскага галоўнага рэдактара, прызначэнне генерала ФСБ Міхаіла Бабіча паслом Расіі ў Беларусь — прызначэнне намесніка. Гэты чалавек, які, безумоўна, не будзе выконваць ролю проста пасла, які будзе паслом, як савецкі пасол у Афганістане часоў Таракі, скажам так.

Трэба меркаваць, Венедыктаў, які дэманстратыўна не хавае свайго сяброўства з Пясковым, прэс-сакратаром Пуціна, ведае, што кажа. У фокус асаблівай увагі назіральнікаў патрапіў і афіцыйны адказ Беларускаму народнаму фронту (БНФ) — што ўжо само па сабе незвычайна — міністра абароны Беларусі генерала Раўкова. Сутнасць адказу — знаходжанне расійскіх ваенных базаў у Беларусі будзе вырашацца ў нацыянальных інтарэсах краіны.

Дзеля чаго спатрэбіўся сёння такі акцэнт у адносінах з РФ, застаецца толькі здагадвацца. Але ўяўляецца дарэчным нагадаць, што ў савецкія часы, калі ў кіраўніцтве таго ці іншага саюзніка ўзнікалі намеры (напрыклад, Чэхаславакіі) паменшыць залежнасць, а то і зусім абвясціць нейтралітэт, яны рана ці позна жорстка перарываліся Крамлём.

Цяпер такая яго ўваганазіраецца на постсавецкай прасторы, якую Масква разглядае як сферу сваіх інтарэсаў і ўплыву. І пры ўсіх умоўнасцях разваг сёння аб падзеях у Чэхаславакіі 50-гадовай даўніны, іх актуальнасць для цяперашніх саюзнікаў Масквы ўсё ж не пазбаўленая сэнсу. Відавочна, што пасля развязвання войнаў у Грузіі і ва Украіне, верагоднасць паўтарэння аперацыі «Дунай» у «гібрыдным» выкананні цалкам выключаць нельга. Як і пасля 1968-га, так і пасля 2014 года, мы сталі іншымі.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗША. Гендар супраць Галівуду

Скарлет Ёхансан нядаўна прызналі самай дарагой актрысай у свеце. Аднак гэта не выратавала яе ад нападаў актывістаў, якія патрабуюць пазбавіць акцёрку ролі ў новым фільме. Скарлет па сцэнары выконвае ролю трансгендара — жанчыну, якая лічыць сябе мужчынам і паводзіць у жыцці адпаведным чынам. Між тым, арганізацыі трансгендараў баяцца, што акцёрка не зможа напоўніцу выказаць праблемы гэтай катэгорыі сексуальных меншасцяў. І наогул, як сцвярджаюць спікеры тых жа арганізацый, трансгендараў маюць права граць толькі трансгендары. Пазіцыю трансгендараў падтрымалі некаторыя фракцыі руху лесбіянак. Тым часам аматары жартаў актыўна здзекуюцца з новай моды, не разумеючы, як акцёру Энтані Хопкінсу ў свой час даверылі выконваць ролю канібала Лектара. Вядома, што ў жыцці Энтані Хопкінс ніколі не еў людзей.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### УКРАІНА. Выкрылі беларускага агента?

Нечаканыя наступствы мела ініцыятыва міністра інфраструктуры Украіны Уладзіміра Амеляна забараніць пасажырскія чыгуначныя перавозкі паміж Украінай і Расіяй. Хаця сам Амелян кажа, што яго матывы выключна патрыятычныя, шмат хто ў гэта не верыць. Калі б Амелян быў паслядоўным патрыётам, ён лагічна выступаў бы за блакаду ўсяго транспарту. Аднак у сувязі з тым, што ўкраінскія алігархі актыўна гандлююць з Расіяй, паўнавартасны разрыў наўрад ці магчымы. Таму шмат хто бачыць у заявах Амеляна нейкі прагматычны намер. Дапускаюць, што ён хоча зрабіць сабе імя перад стартам выбарчага цыклу, што пачынаецца ў верасні. Імідж ультранацыяналіста можа дазволіць яму заняць высокае месца ў выбарчым спісе адной з радыкальных партый. Між тым, многія палітолагі звяртаюць увагу, што асноўным бенефіцыярам ад праекта Амеляна стане Беларусь. Узгадваюць, што забарона авіяперавозак у 2015-м у накірунку Расіі прынесла каласальныя гешэфты Беларусі, праз якую ідзе транзіт з Кіева ў Маскву. У сувязі з гэтым некаторыя кіеўскія палітолагі кажуць, што Амелян можа быць агентам беларускага ўплыву, і нават заклікаюць адпаведныя спецслужбы праверыць міністра.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ІСПАНІЯ. Свінняў больш, чым грамадзян



У Іспаніі нечакана выявілі цікавы факт — колькасць свінняў упершыню ў гісторыі большая за колькасць іспанцаў. Такім чынам, на прыкладна 47 мільёнаў грамадзян краіны прыпадае 50 мільёнаў парсюкоў. І гэта яшчэ не фінал. Пачынаючы з 2013-га на ўнутраным рынку назіраецца вялікі попыт на свініну. Падаецца, такі трэнд трэба толькі вітаць, але ў яго ёсць і адмоўныя бакі. Кожная свіння ў дзень выпівае па 15 літраў вады, што пагражае водным рэсурсам краіны. Нітраты, якія ўтрымліваюцца ў фекаліях, актыўна прасочваюцца ў глебу і атручваюць яе, сцвярджаюць эколагі. Найбольш арыгінальная крытыка гучыць з боку змагароў з ксенафобіяй. Яны лічаць вытворчасць свініны крыніцай міжнацыянальнай варожасці, паколькі мігранты з мусульманскіх краінаў не ядуць свініны і, адпаведна, адчуваюць сябе адчужанымі ад іспанскай грамады. Аднак наўрад ці гэтыя аргументы паўплываюць на вытворчасць мяса. У тым ліку таму, што іспанцы вельмі любяць стравы са свініны. Па сутнасці, гэта частка нацыянальнай ідэнтычнасці. Невыпадкова падчас сярэднявечных войнаў з арабамі публічнае ўжыванне свініны было адным з сімвалаў іспанскага і хрысціянскага супраціву.

**Паводле іспанскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Інквізіцыя па-казахску

Паліцыянты Усць-Каменагорска некалькі гадзін дапытвалі жанчыну (нейкую Сабіну Укокаву) на падставе вуснай скаргі ад двух мясцовых жыхароў, якія сцвярджалі, што тая — вядзьмарка. Інцыдэнт адбыўся мінулай вясной, аднак вядома пра яго стала толькі цяпер. Такім чынам, 25 мая Укокаву па тэлефоне папрасілі з'явіцца ў мясцовы аддзел паліцыі, паколькі на яе паскардзіліся нейкія К. і С. Тыя сцвярджалі, што Укокава чаруе і наводзіць на іх суроКі. Паліцыянты запрасілі жанчыну прайсці ў кабінет, замкнулі за ёй дзверы і на працягу трох гадзін высвятлялі, ці ёсць у Укокавай экстрасэнсорныя здольнасці і ці ўмее яна чараваць. Самае незвычайнае, што затрыманай пагражалі "адпаведным артыкулам". Між тым, заканадаўства Казахстана не прадугледжвае пакарання за вядзьмарства. Разнастайныя «вядзьмаркі» і «варажбіткі» трапляюць у поле зроку праваахоўных органаў, як правіла, пасля таго, як падманваюць кліентаў, атрымаўшы ад іх грошы. Зрэшты, пакуль да судоў інквізіцыі справа не дайшла. Укокаву адпусцілі. Зараз разам з праваабаронцамі яна спрабуе зразумець, што гэта было.

**Паводле казахскай прэсы**



Фота www.news-front.info

# Інтэрвенцыя? Якая інтэрвенцыя?

Алег НОВІКАЎ

**Калі верыць чэшскай апазіцыі і некаторым медыя, напярэдадні 50-й гадавіны падаўлення «Пражскай вясны» ў Чэхіі ўлада запусціла інфармацыйную кампанію. Яе мэта — рэвізія гісторыі тых трагічных падзей.**

Роўна 50 гадоў таму адбылося кіраванае Масквой вайсковае ўварванне ў Чэхаславакію войскаў краін Варшаўскай дамовы, якое спыніла спробу чэхаў і славакаў пабудаваць сацыялізм з чалавечым тварам. Такая версія гісторыі, прынамсі пасля краху СССР, амаль нікім асабліва не аспрэчвалася.

Аднак напярэдадні цяперашняй гадавіны з'явіліся новыя трактоўкі. Аказваецца, што Чэхаславакію 50 гадоў таму атакавалі... украінцы! Маўляў, тагачасным лідарам СССР быў Леанід Брэжнеў, які паходзіць з Украіны. Украінцы складалі і большую частку кіраўніцтва КПСС. Іншыя яго сябры, у тым ліку адзін беларус, не змаглі затармазіць план інтэрвенцыі. Акрамя таго, большасць жаўнераў, якія ўдзельнічалі ва ўварванні, былі ўкраінцамі, паколькі служылі ў складзе фармаванняў Украінскай вайсковай акругі.

У прынцыпе, на падобныя спекуляцыі можна было б не звяртаць увагі. У прэсе, асабліва расійскай, сёння можна прачытаць і больш крутыя «сенсацыі», якія тычыцца тых падзей. Напрыклад, пра тое, што за чэхаславацкімі рэфарматарамі-камуністамі стаяла заходненямецкая разведка. Або пра тое, што ЦРУ наўмысна справакавала СССР і яго саюзнікаў на інтэрвенцыю, каб дыскрэдытаваць Савецкі Саюз.

Фішка ў тым, што тэзіс пра акупацыю Чэхаславакіі ўкраінцамі ў 1968 годзе агучыў не нейкі гісторык-маргінал, а лідар партыі, якая дэ-факта ўваходзіць у склад цяперашняга чэшскага кабміна. Гаворка пра Войтэха Філіпа, правадыра Камуністычнай партыі Чэхіі і Маравіі. Гэта беспрэцэдэнтны выпадак для сістэмнай палітычнай структуры.

У прынцыпе, ад камуністаў, напэўна, можна было такога чакаць. Аднак іншыя кіраўнікі Чэхіі паводзяць сябе не менш дзіўна. Напрыклад, прэзідэнт Мілаш Земан заявіў, што акупацыя ў жніўні 1968-га была злачынствам, аднак прэзідэнт (паводле слоў яго прадстаўніка) не мае намеру рабіць спецыяльную прамову з нагоды трагічнага юбілею.

Затое адмысловую прамову выдаў прэм'ер краіны і адначасова алігарх Андрэй Бабіш. Аднак, як мяркуюць некаторыя назіральнікі, у дадзеным выпадку лепш бы ён прамаўчаў. «Мы памятаем тое, калі мы былі акупаваныя, калі мы гулялі ў хакей і, вядома, Палаха і ўсё такое. Такім чынам, гэта вельмі негатыўная рэч», — сказаў Бабіш сярод іншага, і гэтым шакаваў публіку. На думку шмат каго, гэта быў нейкі здзек са спадчыны 1968-га або нават тролінг тых, хто ўзгадвае же абставіны.

Такія паводзіны з боку цяперашняй эліты выклікаюць раз'юшанасць ліберальнай апазіцыі, якая вуснамі Іржы Паспішыла, аднаго з яе лідараў, кажа пра «грэбаванне (кіраўнікамі краіны) канстытуцыйнымі абавязкамі». У сваёй заяве палітык нагадвае, які кошт заплаціла краіна за тую інтэрвенцыю: каля сотні збітых і 200 тысяч эмігрантаў.

Між тым, некаторыя журналісты — напрыклад, Давід Клімеш — ідуць далей, і кажуць пра пачатак сістэмнага перагляду падручнікаў гісторыі. На думку Клімеша, наўрад ці Войтэх Філіп правакаваў бы чэхаў версіяй пра ўкраінцаў-акупантаў, калі б не разумеў, што яму ўсё сыдзе з рук.

Справа ў тым, што папулісцкая кааліцыя з удзелам камуністаў, якая прыйшла да ўлады ў мінулым годзе, так ці інакш супрацьпастаўляе сабе ліберальным папярэднікам, якія вядуць свой летапіс з вясны 1968-га. Для гэтага лагеру Аксамітная рэвалюцыя 1989-га шмат у чым была позняй рэдакцыяй «Пражскай вясны», якая мае абсалютна сакральны статус. Між тым, для шматлікіх чэхаў пагроза вяртання камунізму даўно страціла актуальнасць. Ім больш цікавыя тэмы той жа карупцыі або міграцыі, якія актыўна эксплуатуюць папулісты. Такім чынам можна казаць пра барацьбу светапоглядаў.

Цікава, што сярод цяперашніх аматараў «Пражскай вясны» шмат хто крытыкуе ліберальную апазіцыю. Як піша калумніст Апалена Рыхлікава, сённяшняя апазіцыя з 1989-га была пры ўладзе, і менавіта яна адказная за тое, што ідэі «Пражскай вясны» апынуліся ў маргінэзе. «Палітыкі і чыноўнікі пачалі ігнараваць думку дзеячаў культуры, сацыяльныя праблемы перасталі цікавіць уладу, крытэрам поспеху стаў прыбытак, а не супрацоўніцтва і прагрэс», — піша Рыхлікава. Праўда, журналістка спадзяецца, што «вопыт 1960-х гадоў з іх унікальнай дынамікай яшчэ можа быць крыніцай натхнення для краіны».

Што да будучага месца жніўня 1968 года ў падручніках Чэхіі, то яно сапраўды непрадказальнае. Не праз тое, што палітыкі накшталт Войтэха Філіпа з відавочнай дапамогай расійскіх медыя актыўна прасоўваюць рэвізіянісцкія канцэпты. Проста на змену цяперашнім генерацыям чэхаў ідзе новая. Яе прадстаўнікам, гледзячы па сацыялогіі, абсалютна абыякава, што было ў тым жа 1968-м. Так, у чэрвені агенцтва «Market Research» падзялілася вынікамі даследавання, паводле якога амаль палова маладых чэхаў не ведаюць, што адбылося ў ключавыя для лёсу краіны гады — 1938-м, 1948-м і 1968-м.

# СССР разваліў Чабурашка?

Алег НОВІКАЎ

**На 81-м годзе жыцця 14 жніўня памёр вялікі дзіцячы пісьменнік Эдуард Успенскі. Аўтары прысвечаных яму пасмяротных публікацый нечакана выявілі ў яго казках палітычны падтэкст.**



Фота www.112.ua

Кот Матроскін, Чабурашка, дзядзя Фёдар, паштальён Печкін, Шапакляк і іншыя шматлікія персанажы Успенскага знаёмыя практычна кожнаму. Аднак мала хто думаў, што, апісваючы іх прыгоды, літаратар спрабаваў перадаць нейкае палітычнае пасланне. Яго знайшлі і расшыфравалі толькі пасля смерці пісьменніка. На думку некаторых літаратуразнаўцаў і аглядальнікаў, тэксты Эдуарда Успенскага ўтрымліваюць выразны дысідэнцкі і антысавецкі пасыл.

Газета «Известия» ілюструе гэты тэзіс на прыкладзе фабулы цыклу пра «Прастаквашына». Дзядзя Фёдар, разважлівы самастойны хлопчык, робіць зусім нелагічны для добрага дзіцяці ўчынак — уцякае ў вёску. Гэта цалкам разбурае стары савецкі міф пра тое, што нашы дзеці, калі і бягуць з хаты, то выключна па нейкіх высокіх ідэалагічных матывах — напрыклад, дапамагаць братэрскаму в'етнамскаму або кубінскаму народам. Аднак у нашым выпадку хлопчык збягае не з высокімі мэтамі, а каб займацца банальнай гаспадаркай на прыватнай садовай дзялянцы. «Страшна сказаць, гэта ж кулацка-мяшчанская мара», — робіць выснову «Известия».

А вядомы расійскі паэт Дзмітрый Быкаў увогуле сцвярджае, што самай антысавецкай кнігай савецкага перыяду была аповесць Успенскага «Год добрага дзіцяці». На яе старонках савецкі хлопчык-хуліган ліstуецца з аднагодкай-замежніцай, хуліганкай з Галандыі. Пры гэтым Успенскі наўпрост піша пра адсутнасць у СССР свабоды думкі.

Быкаў звяртае ўвагу на наступны фрагмент кнігі: ліст ад савецкага хулігана ў Галандыю вельмі доўга не прыходзіць. І тата-галандзец тлумачыць дачцэ гэта наступным чынам: «Савецкі Саюз — вялізная-вялізная краіна. І там твой ліст можа лёгка згубіцца. Гэта па-першае. Але ёсць яшчэ адна рэч. У іх іншая сістэма жыцця. Яны думаюць гэтак жа, але па-іншаму. Можа быць, яны не прапусцяць твой ліст праз мяжу, каб ты не ўплывала на думкі іх дзяцей».

І што ўжо казаць пра старую Шапакляк. «Яе (Шапакляк) падкрэслена старамодны стыль у спалучэнні са старарэжымнымі інтанацыямі прамовы і з роляй відавочнага антаганіста станоўчых (чытай — савецкіх) герояў асацыюецца з вобразам «ворага народа», — піша Канстанцін Ключкін, аўтар артыкулу «Запаветны мультфільм: прычыны папулярнасці «Чабурашкі». Ён жа адзначае, што «ў праекцыі на савецкі соцыум самотны інтэлігент кракадзіл Гена нагадвае ў першую чаргу знаёмы вобраз мужчыны, які выжыў у перыпетыях вайны і сталінскіх рэпрэсій».

Эдуарда Успенскага пачалі параўноўваць з Уладзімірам Высоцкім, іншым славутым бунтаром часоў застою. «У чымсьці сітуацыя была падобная да сітуацыі Уладзіміра Высоцкага: усе ведалі і спявалі яго песні, яны гучалі па тэлевізары і на кружэлках, але ніякіх публікацый у друку песень Высоцкага не было. Так і ва Успенскага: усе дзеці і іх бацькі выдатна ведалі пра Чабурашку і ката Матроскіна. Але толькі дзякуючы мультфільмам. Кніг не выходзіла», — узгадвае літаратар Уладзімір Бандарэнка.

Дарэчы, савецкая цэнзура, падаецца, разумела, што нешта з гэтымі Чабурашкам і паштальёнам Печкіным нячыста. Прынамсі ў сваіх інтэрв'ю пісьменнік распавядае пра шматлікія канфлікты з цэнзарамі. «Казалі, што сяброў нельга знаходзіць па абвестцы, як гэта робіць Чабурашка, — толькі ў калектыве! Абураліся: чаму гэта Гена з Чабурашкам сабралі металалому больш, чым піянеры, — тут відавочны недавер да піянерскай арганізацыі. Пры стварэнні мультфільму выршана было сабраны металалом падзяліць пароўну», — узгадвае аўтар кракадзіла Гены. Натуральна, не прайшла цэнзура і міма вядомай фразы Шарыка пра тое, што «мяса трэба купляць у краме, бо там костак больш».

На думку літаратурнага крытыка Канстанціна Мільчына, дысідэнцтва Успенскага мела сістэмны характар і заключалася ў замаху на закон і парадак — асноўны фундамент савецкай аўтарытарнай сістэмы. «У казках Эдуарда Успенскага месца дзеяння — гэта заўсёды ўтапічны савецкі сусвет, свет законаў, парадку і перадвызначанасці. Так было заўсёды і так будзе. Казка пачынаецца ў той момант, калі ў гэтым свеце пачынаюцца адхіленні ад правілаў. Напрыклад, кракадзіл размаўляе і паліць люльку. Такім чынам: закон — гэта добра, але, калі вельмі трэба, то яго можна абысці», — піша Мільчын.

Не факт, што Успенскі заклікаў свядома парушаць нормы. Любая казка сама па сабе — гэта выхад за мяжу звычайнай думкі. Таму нават калі б Успенскі быў упісаны, як той жа Мікіта Міхалкоў, у сістэму, і рэкламаваў яе, яго творы ўсё роўна працавалі на эрозію існуючага рэжыму.

Як адзначае журналіст Андрэй Ашкераў, «Успенскі — прыклад таго, што непалітычны ўплыў становіцца больш уплывовым за палітычны, паколькі разбурае манаполію афіцыйнай улады на цыркуляцыю слоў і рэчаў (...) Успенскі ператварыў савецкае ўяўнае, змяніўшы сам статус героя. Са з'яўленнем Чабурашкі героем стала не ахвяра, якая ўрачыста ахвяруе сабой у імя светлай будучыні, а фрык і гібрыд». Такім чынам Чабурашку надаецца нават вялікая роля ў крызісных працэсах у СССР.

Між тым, у творчасці Успенскага нечакана знайшлі яшчэ адзін нюанс — экалагічны. Яго заўважыў мультыплікатар Барыс Машкавец, які кажа: «Творы Успенскага вучаць таму, што жывёлы з'яўляюцца паўнавартаснымі чальцамі грамадства. У яго творах згода людзей і жывёл прадстаўленая як норма жыцця, а не як казка пра жывёлаў, якія проста бегаюць і нешта кажуць».

Як бачым, спадчына Успенскага патрабуе дадатковага вывучэння і новых дэбатаў. Аднак ніякіх дыскусій не патрабуе факт, што пайшоў жыцця сапраўды вялікі пісьменнік, сімвал цэлай эпохі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Антон Белякоў



Група сенатараў Савета Федэрацыі Расіі на чале з Антонам Беляковым прапанавала змены наконт артыкулу «Прапаганда альбо публічная дэманстрацыя нацысцкай атрыбутыкі або сімволікі» расійскага Адміністратыўнага кодэкса. Сенатары заклапочаныя тым, што апошнім часам паболела выпадкаў, калі людзей прыцягваюць да адказнасці за размяшчэнне ў сацсетках выявы свастыкі, нягледзячы на тое, што гэты сімвал выяўлены на плакатах або фотаздымках Другой сусветнай вайны. Быў выпадак, калі расіяніна мелі намер прыцягнуць за публікацыі здымкаў з Параду Перамогі 1945 года, на якіх чырвонаармейцы кідаюць сцягі фашыстаў. Падставай для завядзення справы былі нават кадры з мастацкіх фільмаў.

Больш за тое, паліцэйскія на месцах самі прымушаюць людзей запошчваць выявы свастыкі. Так, напрыклад, у Растове ў 2016 годзе паліцэйскі папрасіў карыстальніка запосціць на сваёй старонцы свастыку, каб палепшыць паказчыкі барацьбы з экстрэмізмам. Прычым дзяржслужачы нават паабяцаў карыстальніку аплаціць штраф.

На думку Белякова, трэба адмовіцца ад адміністратыўнага пераследу за выкарыстанне знакаў нацызму ў творах мастацтва, літаратуры і гэтак далей. Цікава, што ідэю легалізаваць публікацыі малюнкаў свастыкі без мэтаў прапаганды нацызму падтрымалі таксама камуністы.

### Барыс Джонсан



У прэсе з'явіліся публікацыі пра тое, што адзін з лідараў брытанскіх кансерватараў можа развапіць сваю партыю.

Усё з-за нядаўняга скандальнага каментара Джонсана наконт мусульманскай вопраткі. На думку Джонсана, жанчыны, што носяць бурку — адзенне, якое цалкам хавае цела, — падобныя на рабаўнікоў банкаў ці паштовыя скрыні. Такое параўнанне дорага каштавала палітыку. Уся прагрэсіўная грамадскасць зневажае Джонсана. Далучылася да атакаў і частка торы, у тым ліку і прэм'ер Тэрэзу Мэй.

Аднак адначасова ў Джонсана ў партыі з'явіліся і прыхільнікі. На іх думку, тэма буркі спатрэбілася Мэй, каб выключыць магчымасць перамогі Джонсана на наступных выбарах кіраўніка партыі. Джонсан, як вядома, крытыкуе прэм'ера за прапанаваны ім варыянт мяккага Brexit. Запал спрэчкі зайшоў настолькі далёка, што шмат хто кажа пра немагчымасць для дзвюх фракцый заставацца пад адным партыйным дахам. У сувязі з гэтым некаторыя палітолагі прапануюць Джонсану пакінуць шэрагі торы і спрабаваць стварыць сваю структуру.

Кажуць, што праект можа падтрымаць і Нігель Фарадж, экс-лідар Партыі незалежнасці Аб'яднанага Каралеўства, які днямі заявіў пра вяртанне ў палітыку. Варта адзначыць, што Дональд Трамп бачыць у крэсле брытанскага прэм'ера менавіта Джонсана.

### Віктар Орбан



Прэм'ер Венгрыі працягвае будаўніцтва «неліберальнай дэмакратыі» — ідэальнай, на думку Орбана, грамадска-палітычнай мадэлі для Венгрыі.

На практыцы гэта азначае зачыстку апанентаў. Пасля таго, як увесну быў прыняты закон аб забароне дапамогі імігрантам, цяпер дайшла чарга да адукацыі. Урадам прыняты законы пра ўзмацненне патрыятычнага выхавання ў дашкольных установах, а таксама спыненне фінансавання выкладання прадмета «гендарныя даследаванні». Гэты напрамак у навуцы, на думку Орбана, падрывае сямейныя і хрысціянскія каштоўнасці.

«Венгерскі ўрад мае дакладнае ўяўленне, што людзі нараджаюцца мужчынам ці жанчынай. Яны вядуць сваё жыццё так, як яны думаюць. Сыходзячы з гэтага, венгерская дзяржава не жадае марнаваць дзяржаўныя сродкі на адукацыю ў гэтай галіне», — кажа адзін з сяброў адміністрацыі Орбана. На думку апазіцыі, цыркуляр Орбана супярэчыць Канстытуцыі і абмяжоўвае ўніверсітэцкія свабоды. Нарэшце, гэта стварае небяспечны прэцэдэнт.

Застаецца дачакацца, якой будзе рэакцыя Брусэля, дзе неаднаразова крытыкавалі Будапешт аж да пагрозы выключыць Венгрыю са складу ЕС. Аднак на пэўныя крокі чыноўнікі Еўрасаюза так і не рашыліся.

# Валерый Урублеўскі:

Юрый ГЛУШАКОЎ

**У жніўні гэтага года споўнілася 110 гадоў з дня смерці Валерыя Урублеўскага — героя паўстання 1863 года і генерала Парыжскай Камуны.**

## Лясная шляхта

У сям'і беззямельнага шляхціца Лідскага павета Антонія Урублеўскага 15 снежня 1836 года нарадзіўся хлопчык, якога пры хрышчэнні назвалі Валерам. Яго бацька служыў спа-



Валерый Урублеўскі

чатку лесніком, потым — скарбнікам у магната Тызенгаўза. Днямі Валер з бацькам хадзіў па густых пушчах. Ці мог ён тады падумаць, што навыкі ляснога жыцця так спатрэбяцца яму ў будучыні?

Бацька пайшоў з жыцця рана, і сям'я пераехала ў Вільню да яго брата — дзядзькі Яўстахія. У 1848 годзе Еўропу ўзрушыла хваля рэвалюцый. Адказам расійскай царскай улады, зразумела, сталі рэпрэсіі. У адзін з дзён жандары прыйшлі і за дзядзькам Яўстахіем, які разам з Тарасам Шаўчэнкам увахозіў у таемнае «Кірыла-Мяфодзіеўскае таварыства».

Малады Урублеўскі скончыў гімназію ў Вільні і ў 1854 годзе паступіў у Пецярбургскі лясны інстытут. Фактычна, гэта была ваенная ўстанова, дзе рыхтавалі афіцэраў лясной варты, інжынераў і тапографаў. Студэнты з Польшчы і Беларусі ўтваралі сваё зямляцтва, рабілі «нацыянальныя» фота ў даламанах са шнурамі і шапках — «рагутувках». Але ў цэлым у гуртакі моладзі ўваходзілі палякі і рускія, беларусы і ўкраінцы. Ідэі свабоды, роўнасці і братэрства паланілі малады розум. Тут Урублеўскі пазнаёміўся з Кастусём Каліноўскім і Ярославам Дамброўскім.

У 1859 годзе Урублеўскі атрымаў званне падпаручніка і прызначэнне інспектарам у лясную школу ў Саколку Гродзенскай губерні.

## Касінеры з пушчы

У 1861 годзе Кастусь Каліноўскі і Валерый Урублеўскі стварылі таемную рэвалюцыйную арганізацыю ў Гродзенскай губерні. Улетку 1862 года Каліноўскі і Урублеўскі пачалі выдаваць першую газету на беларускай мове — «Мужыцкую праўду». Некаторыя гарадзенскія сяляне вучылі на газету на памяць. Па сведчанні сучаснікаў, Валерый Урублеўскі быў перакананым прыхільнікам самастойнасці Літоўска-Беларускага краю.

А ў студзені 1863 года ў Варшаве ўспыхнула паўстанне. Але яно пачалося заўчасна, справакаванае рэкруцкім наборам. Беларускім рэвалюцыянерам давялося далучацца да яго ўжо па ходзе. Урублеўскі і Каліноўскі — радыкальныя «чырвоныя». Для іх тое, што адбываецца, — не проста нацыянальна-вызваленчае паўстанне, але і сацыяльная рэвалюцыя. Аднак «Нацыянальны ўрад» з Варшавы здзейсніў у Беларусі «белы» пераварот. Кансерватары распусцілі Літоўскі правінцыйны камітэт, а яго былы кіраўнік Кастусь Каліноўскі быў паніжаны да каміcара Гродзенскага ваяводства.

У красавіку 1863 года Валерый Урублеўскі сфармаваў свой атрад у некалькі соцень чалавек. Яго аснову складалі вучні егерскай школы і згалелая шляхта, да іх далучылася частка салдат з аховы Белавежскай пушчы і некаторыя сяляне. З узбраення — у асноўным пікі, пераробленыя з сялянскіх косаў. За правадыра паўстанцкіх сіл Гродзенскага ваяводства быў прызначаны кансерватыўны і нерашучы Ануфрый Духінскі. Урублеўскі стаў начальнікам штаба.

29 красавіка пад Валілай атрад Духінскага сустрэў першы бой з царскімі войскамі, якія больш чым удвая пераўзыходзілі сілы паўстанцаў, і атрымаў цяжкую паразу: 32 чалавекі забітыя, страчана казна і пячатка ваяводы Духінскага. Царскія карнікі нават адрапартавалі аб гібелі «збеглага падпаручніка Урублеўскага». Але капітан Урублеўскі застаўся жывы і не падаў духам. І неўзабаве ў Ружанскім лесе адбыўся парад усіх паўстанцкіх сіл Гродзеншчыны — шэсць тысяч штыкоў. Дакладней — косаў. Каліноўскі і Урублеўскі марылі пра дэмакратычную рэспубліку і вялі актыўную прапаганду сярод беларускіх сялян, заклікаючы да падзелу памешчыцкіх маёнткаў. Шэрагі паўстанцаў пачалі расці.



Фота www.politconservatism.ru

Барыкада Парыжскай Камуны каля могілак Пер-Лашэз

У чэрвені паўстанцкі атрад уступіў у бой з карнікамі ў Ружанскай пушчы каля ракі Сцерцеж. Духінскі зноў ледзь не трапіў у палон, але Урублеўскі тройчы асабіста вадзіў сваіх касінераў у атаку — і адкінуў ворагаў. У наступным баі пад Вялікім Кутом рэвалюцыянеры-патрыёты таксама нанеслі царскім карнікам паразу. У паўстанцаў не было сваіх ордэнаў, не раслі ў лесе і лаўры. Але пасля бою Урублеўскі ўручыў сваім салдатам галінкі квітнеючай каліны — сімвал роднай беларускай пушчы.

Аднак пераўзыходзячыя сілы імператарскай арміі працягвалі насядаць. Каб пазбегнуць непатрэбных страт, Урублеўскі разбіў сваё войска на невялікія групы і перайшоў да партызанскай вайны. Неўзабаве ён стаў камандуючым у Гродзенскім ваяводстве. Увосень Урублеўскі вывеў свае атрады на зімоўку ў Польшчу, і яго прызначылі воінскім начальнікам Падляшскага і Люблінскага ваяводстваў.



Яраслаў Дамброўскі

У студзені 1864 года конны атрад паўстанцаў перайшоў раку Тыемніцу. Коні стомлена ішлі па снезе. І раптам лес выбухнуў гікам і крыкам — з-за дрэў на паўстанцаў вылецелі кубанскія казакі. Валерый Урублеўскі агаліў шаблю і прышпорыўшы каня, кінуўся наперад. Вакол закруціліся ў віхуры буркі і башлыкі. Удар, другі, ляск шабельных клінкоў. Урублеўскі быў выдатным фехтавальшчыкаў, але сілы занадта няроўныя. Адзін удар шашкі прыйшоўся ў плячо, другі — проста па галаве. Урублеўскі зваліўся з каня, здавалася б — нежывы. Казакі паімчалі далей.

Польская газета ў эміграцыі «Глос вольны» зноў паведаміла пра гібель камандзіра паўстанцаў. Але Урублеўскі выжыў.



Магіла Валерыя Урублеўскага на Пер-Лашэз

## Viva la Comunne!

Цяжка параненага рэвалюцыянера падабралі сяляне і прывезлі яго ў маёнтак арандатара Ксаверыя Складоўскага. Не жадаючы падвяргаць гаспадароў небяспецы, Урублеўскі папрасіў перапраявіць яго за кардон. Рэвалюцыянера везла пад выглядам сваёй ахмістрыні пляменніца арандатара Баляслава Складоўская, будучая цётка Марыі Складоўскай-Кюры, двойчы лаўрэата Нобелеўскай прэміі. Непадалёк ад аўстрыйскай мяжы некалькі нудных афіцэраў пад'ехалі да карэты і пачалі фліртаваць з дамамі. Аднак аднаму лавеласу рослая ахмістрыня здалася падазронай, і ён захацеў дагледзець яе. Урублеўскі ўжо пацягнуўся па пісталет, але доўга не мог намацаць зброю — перашкаджала спадніца. Аднак тут пад'ехаў старэйшы афіцэр і адаслаў сваіх заўзятых падначаленых. Затым, нахіліўшыся да «служанкі», напаўголаса сказаў: «Прывядзіце ў парадак свой твар». Аказваецца, па лбе замаскіраванага паўстанца з адкрытай раны сцякаў струменьчык крыві. Урублеўскі схільны быў лічыць, што гэты афіцэр быў рускім...

У хуткім часе Валерый Урублеўскі ўжо апынуўся ў Парыжы, Мецы ўсіх эмігрантаў. Раны і цяжкая доля крыху сагнулі калісьці высокага, станістага брунета. Але ён не жадаў жыць на чужую дапамогу. І хоць знявечаная шабельным ударам рука амаль не працавала, уладкаваўся ліхтаршчыкам і лазіў на слупы. Потым стаў друкаром ды адначасова хадзіў у французскую ваенную школу.

У Парыжы ён зноў сустрэў Яраслава Дамброўскага. Аднойчы цар Мікалай І прыехаў у Брэсцкі кадэцкі корпус і ўзяў на рукі маленькага кадэта. Але калі даведаўся, што той паляк, — так шпульнуў яго на падлогу, што малы страціў прытомнасць. Гэта і быў маленькі Яраслаў Дамброўскі. Пасля ён узначаліў у Варшаве арганізацыю Камітэта рускіх афіцэраў у Польшчы. Быў арыштаваны яшчэ ў 1862 годзе, але здолеў уцячы з перасыльнай турмы ў Маскве.

# жыццё на алтар свабоды



Фота www.humus.livejournal.com

Барыкады на вуліцы Германіі і Севастопаль

У Францыі Урублеўскі і Дамброўскі сталі на чале левага крыла польскай эміграцыі. А ў 1870 годзе пачалася франка-пруская вайна, выкліканая майстэрскай дыпламатычнай інтрыгай канцлера Бісмарка. Царская Расія ў гэтай вайне фактычна падтрымлівала найбольш рэакцыйную прускую манархію. Армія Напалеона III, нягледзячы на фанфаронства яе генералаў, і нават перавагу французскіх ігольчастых вінтовак Шаспо над прускімі Дрэйзе, займела поўную паразу. Пасля звяржэння Банапарта эмігранты з Польшчы і Беларусі масава сталі на абарону Французскай рэспублікі. Але старыя генералы на чале новага ўрада «нацыянальнай абароны» зусім не прагнулі дапамогі патрыётаў-рэвалюцыянераў.

Дамброўскі прапанаваў стварыць з польскіх эмігрантаў — прыроджаных кавалерыстаў, — конны корпус па ўзоры алжырскіх спагі, які разгорне партызанскую вайну ў прускім тыле. Дзякуй Богу, вопыт 1863 года быў яшчэ свежы, як не зніклі і традыцыі легендарных польскіх і літоўскіх уланаў. Але коснае камандаванне праігнаравала гэты праект. А Дамброўскага, прызначанага камандзірам дабравольніцкага Франка-польскага легіёна, нават часова пасадзілі ў турму.

Урублеўскі таксама ўступіў у Нацыянальную гвардыю. І чатыры месяцы ўдзельнічаў у абароне Парыжа, абложанага прускімі войскамі. Генералы ж, баючыся патрыятычнага ўздыму народа, паспяшаліся скласці з немцамі ганебны мір, аддаўшы ім Эльзас і Латарынгію. Прускі кароль абвясціў стварэнне Германскай імперыі, якая ў будучыні развяжа дзве сусветныя вайны.

А тады, у сакавіку 1871 года, супраць здрады нацыянальным інтарэсам і ў абарону свабоды і рэспублікі паўсталі парыжане. Абвяшчэнне Парыжскай Камуны стала адказам патрыётаў на нямецкую акупацыю і на імкненне перакласці нягоды паразы на рабочых і дробных прадпрымальнікаў. Камуна стала ўзорам нябачанага яшчэ народаўладдзя і сацыяльнай справядлівасці, калі любая службовая асоба павінна была атрымліваць не больш за сярэдні заробак працоўнага, дэпутаты дзейнічалі толькі па дакладных наказах выбаршчыкаў і пастаянна трымалі справаздачу перад імі. Гэта было так падобна на тыя «гміны», супольнае самакіраванне, якія яшчэ ў 1865 годзе прапаведаваў Дамброўскі. Паводле задумы парыжскіх камунараў, уся Францыя павінна была ператварыцца ў федэрацыю самаарганізаваных камун.

Баявыя афіцэры былі вельмі патрэбныя федэралістам. Дамброўскі стаў ваенным камендантам Парыжа і адначасова — камандуючым Першай арміі на заходнім напрамку. Другую армію Камуны на поўдні Парыжа ўзначаліў Урублеўскі. У яе складзе 3 корпусы, 15 тысяч байцоў-федэратаў. З поўначы і ўсходу ад Парыжа стаялі прусакі — нібыта «нейтральныя». Больш за 600 эмігрантаў з Польшчы і Беларусі са зброяй у руках выступілі на абарону Камуны. «За нашу і вашу свабоду» змагаўся Ахіл Банальдзі, былы настаўнік Урублеўскага па Віленскай гімназіі, і рэвалюцыянер з Вільні Канстанцін Далеўскі. У Камітэце пільнасці Манмартру за правы жанчын змагалася Ганна Корвін-Крукоўская, прадстаўніца беларускага шляхецкага роду. А вось кансерватар князь Чартарыйскі сцвярджаў, што палякі на службе Камуны — проста найміты.

4 мая становішча Камуны стала пагрозлівым ля форта Ісі. Апошні абаронца ўмацавання, 16-гадовы камунар Дзюфур, ужо рыхтаваўся падарваць яго разам з версальцамі. Але легіёны Дамброўскага і Урублеўскага магутнай контратакай адкінулі ворага. Праз некалькі дзён Урублеўскі асабіста, пад градам куль, вёў федэратаў у новую штыкавую атаку. І выбіў версальцаў з форта Ванв. Але супраць Урублеўскага інтрыгаваў чалец Камітэта грамадскага выратавання Фелікс Піа, незаслужаныя абвінавачанні зваліліся і на галаву цяжка кантужанага ў бай Дамброўскага. Кепскую ролю адыгрывала і тое, што тэрытарыяльныя батальёны федэратаў аддавалі перавагу біцца кожны за свой раён.

21 мая версальцы ўварваліся ў Парыж праз вароты Сен-Клу, бай ішлі за Манмартр. Праз два дні на барыкадзе на рагу вуліц Міро і Пуасаньер быў смяротна паранены Яраслаў Дамброўскі. Незадоўга да смерці ён сказаў таварышам: «Я пamру. Жыццё маё не грае ролі. Думайце толькі пра выратаванне рэспублікі».

Памёр ад ран, атрыманых у баі за Камуну, і паплечнік Каліноўскага, капітан кавалерыі Камуны Ахіл Банальдзі.

Урублеўскі працягваў трымаць абарону ў раёне Італьянскага бульвара і плошчы Жанны Д'Арк. 101-ы батальён Нацыянальнай гвардыі пад яго камандаваннем больш за суткі адбіваў тут атакі цэлага корпуса контррэвалюцыянераў. Толькі пагроза акружэння прымусіла генерала Камуны адысці на другі бераг Сены. Урублеўскі біўся на адной з апошніх барыкад, але змог пазбегнуць палону.

Версальцы разгарнулі такі люты тэрор, якога Парыж яшчэ не бачыў. У ходзе расстрэлаў і дзікіх расправаў проста на вуліцах было знішчана да 30 тысяч чалавек. Але рэстаўраваць манархію версальцы не адважыліся. Францыя канчаткова стала рэспублікай.

Пасля паразы Камуны Урублеўскі (які ўжо раз) перайшоў на нелегальнае становішча, але доўга не пакідаў Парыж. Нарэшце ён згадзіўся з'ехаць у Лондан. І зноў фактычна паўтарылася гісторыя 1864 года на аўстрыйскай мяжы. На вакзале ўсіх, хто ад'язджаў, сагналі ў адну залу і сталі спраўджваць з альбомам вышуку камунараў. Фота Урублеўскага было там на першым месцы. Але вытрымка і знаходлівасць і тут не падвялі яго. Паказаўшы паліцыянтам свой «прускі» пашпарт, ён абурыўся фармальнасцямі. Ліслівасць французскіх паліцыянтаў перад акупантамі выратавала рэвалюцыянера — яго адвялі ў вагон, каб падданы прускага караля змог камфортна перачакаць праверку.

## Легіянер справядлівасці

У Лондане з Урублеўскім усталяваў цесныя кантакты Карл Маркс. Відавочна, ён бачыў у гэтым чалавеку з нязломнай воляй перспектыўнага лідара сваіх паслядоўнікаў у Польшчы і Літве. Урублеўскі, перакананы сацыяліст, змагаўся за поўнае нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне. Ён лічыў, што яго радзіма зможа здабыць свабоду толькі ў братнім саюзе з усімі прыгнечанымі народамі Расійскай імперыі. Але рэзка і публічна адмаўляўся ад фінансавай дапамогі англійскага ўрада, які пажадаў рукамі рэвалюцыянераў разгайдаць Расію падчас руска-турэцкай вайны 1877–1878 гадоў.

Пры гэтым Урублеўскі наладзіў цесныя сувязі з расійскім народніцкім рухам. Ён выязджаў да межаў Расійскай імперыі і, па некаторых дадзеных, нават нелегальна перасякаў яе для сустрэч з прадстаўнікамі рэвалюцыйнага падполля. Як мяркуецца, Валерый Урублеўскі ў канцы 1877 года мог бываць у Адэсе і Пецярбургу, а каля 1890 года — у Польшчы ці каля яе.

У 1885 годзе французскія ўлады, з улікам растучых сацыялістычных настрояў у краіне, амніставалі ўдзельнікаў Парыжскай Камуны. Урублеўскі вярнуўся ў Францыю. Але падарванае баявымі ранамі і цяжкім, часам на мяжы галечы, жыццём у эміграцыі здароўе давала пра сябе ведаць. Састарэлая маці распрадала ўсю маёмасць на Гродзеншчыне і перадала сродкі сыну, які жыў у нястачы. Але Урублеўскі раздаў даўгі і хутка змарнаваў астатняе, нават здымаў сабе асобную ложу ў парыжскім тэатры. Шляхецкія звычкі далі пра сябе ведаць? «Пралетарскае» грэбаванне грашыма? Марнуючы спадчыну, ён жартаваў: «Трэба хутчэй усё лепшае з'есці ды выпіць, каб буржуям не дасталася».

У 1893 годзе ў Ніцы невядомыя збілі яго да страты прытомнасці, толькі раніцай Урублеўскага знайшлі на вуліцы. Восем месяцаў ён правёў у шпіталі, дзе яму зрабілі тры цяжкія аперацыі і выдалілі кавалкі зламаных рэбраў.

Хто мог стаяць за гэтым відавочным замахам? Агенты царскай ахранкі? Мясцовыя рэакцыянеры? Проста крымінальнікі-«апашы»?

У 1901 годзе французскі ўрад прызначыў камандарму Парыжскай Камуны генеральскую пенсію. Апошні прытулак Валерый Урублеўскі знайшоў у доме былога камунара, доктара Генрыха Гершынскага, ураджэнца Літвы, у парыжскім прыгарадзе Урвіле. Нашага гераічнага земляка не стала 5 жніўня 1908 года.

Пахаванне Валерыя Урублеўскага ператварыліся ў грандыёзнае шэсце па ўсяму Парыжу. Ён быў пахаваны ля Сцяны Камунараў на могілках Пер-Лашэз.

Мінулай восенню аўтар гэтых радкоў, стоячы ля надмагілля з бюстам Валерыя Урублеўскага разам з прафсаюзным актывістам з Індыі, назваў яго выхадцам з Беларусі. Жанчына сярэдніх гадоў, якая праходзіла міма, папраўіла: «Полэнд, Полэнд». Дык кім жа ён быў, Валерый Антоні Урублеўскі? Паўстанец і генерал, які змагаўся за Польшчу, Беларусь і Францыю? І — новую, народную Расію. Напэўна, яго жыццё нельга падзяліць дзяржаўнымі межамі. Бо ён сам з лёгкасцю пераходзіў любыя кардоны, каб змагацца за свабоду і справядлівасць усюды, дзе білася яго адважнае і чыстае сэрца.



Фота www.humus.livejournal.com

Дзеці, якія загінулі пры абстрэле падчас аблогі Парыжа

# «Хлеб — як сонца ў руках»



**Па гарызанталі:** 1. Прыйшоў Спас — усяму ... (прыказка). 4. «Хлеб — як сонца ў руках,\\ ... хлебам прапах,\\ а ручнік, як іх сэрцы — прачысты». З верша «Беларусы ідуць, хлеб свой жытні нясуць» выдатнай беларускай паэткі Ларысы Геніюш, якая зведала жахі сталінскіх лагераў, але не скарылася. 6. Горкая часам ..., ды хлеб ад яе салодкі (прыказка). 7. Прыйшоў трэці Спас (29 жніўня) — бяры рукавіцы ў ... (прыказка). 9. «Было ўрачыста і ціха ў хаце — \\ Хлеб з новага ... ўчыняла маці». З паэмы Анатоля Вярцінскага «Песня пра хлеб». 11. «Веру: нашы ... расквеціць\\ залаты ураджай каласся». З верша «Беларусі» паэта-эмігранта Алеся Салаўя, які нарадзіўся на Койданаўшчыне, а памёр у Аўстраліі. 12. Галоднаму хлеб на вуме, а сытаму ... (прыказка). 13. Спас памілуе нас, а ... (28 жніўня) прынясе нам хлеба чыстага (прыказка). 14. Без сахі і бараны сам ... хлеба не знойдзе (прыказка). 17. ... рукам, што пахнуць хлебам (прыказка). 18. «Будзе з хмару хлеба ...,\\ Прыхініся, кум, баком.\\ Будзе тлустая капуста\\ З вераб'іным кумпяком». З верша Рыгора Барадуліна «Сакалы за стол залятаі». 19. Пісьмовая або вусная дамоўленасць. 20. Будзе хлеб — будзе і ... (прыказка). 22. Орган размнажэння ў грыбоў. 23. «І ... безграхоўны той,\\ Якім цалуем маці й хлеб надзённы». З верша Рыгора Барадуліна «Маці і хлеб». 27. Хлеб над панамі ... (прыказка). 30. «Верашчака, смажанкі, бульбянікі.\\ Пахне полем дзедаўская печ.\\ Ешце, госці, залатыя ...». З верша «Беларуская гасціннасць» паэткі-эмігранткі, мастачкі, навукоўца Ніны Аксёнчык. 31. «Вы — ... жнівеньскіх начэй,\\ Вы — шэпты спелага калосся». З верша «Сляды дарог» беларускага паэта Тодара Кляшторнага, расстралянага сталінскімі катамі. 32. Восеньская кветка. 33. Шчыпковы музычны інструмент. 34. ... да слова, а хлеб да абеда (прыказка). 35. Тое, што і рол.

**Па вертыкалі:** 1. Участак поля з пасевамі рысу. 2. Маленькая ... лепш, чым вялікае гультайства (прыказка). 3. «Ну, і яблыкі!\\ Жытнёўкі,\\ І апорты, і мядоўкі,\\ І ...-налівайкі». З верша «У Слуцку смачныя ігрушы» паэта-эмігранта Рыгора Крушыны, які нарадзіўся на Случчыне, памёр у ЗША. 4. Урачысты абед ці вячэра. 5. Запал. 8. ... або лаянка; яна забаранялася, калі ў хаце выпякалі хлеб, бо хлеб мог «спалохацца». 9. Прэснаводная драпежная рыба сямейства карпавых. 10. Выдатны майстар сваёй справы. 15. «Беларускай бульбе ...\\ Ходзіць шумна з краю ў край». З верша Васіля Голуба «Бульба». 16. «Сімвал Беларусі — гэта белы ...,\\ Сімвал дабрабыту — гэта чорны хлеб». З верша Міхася Кузрылы «Песня пра хлеб». 19. «Дай урадлівасць жытнёвым нівам,\\ учынкам нашым пашлі ...». З верша выдатнай паэткі-эмігранткі Наталлі Арсенневай «Малітва». 21. Тое, што і яснасць. 24. «А яна — ... — \\ Весела, шчаслівa\\ Каранue песняй\\ Залатое жніва». З верша Янкі Купалы «Жняя». 25. Тое, што і шчокі (састарэлае, паэтычнае). 26. У старажытнагрэчаскай міфалогіі — напітак багоў. 28. Завяршэнне чаго-небудзь. 29. «Хваліліі ... хлеб і старажытны,\\ Багаты хлебам беларускі край». З верша Ларысы Геніюш «Хлеб».

**Склаў Лявон Целеш, г. Дзяржынск**



**Адказы на крыжаванку «Рыгор Кобец — чалавек-легенда» (НЧ №27 ад 20 ліпеня):**

**Па гарызанталі:** 1. Міхаіл. 5. «Гута». 7. Каўчэг. 9. Тэатр. 10. Божа. 11. Скамарох. 14. Кілім. 16. Бераг. 18. Паэт. 19. Акын. 22. Гвалт. 23. Карта. 25. Арабеска. 28. Джаз. 29. Слайд. 31. Двойчы. 32. Быль. 33. Гамбія.

**Па вертыкалі:** 1. Метрыка. 2. Акт. 3. Сага. 4. Мэтр. 6. Твор. 8. Качагар. 12. Хабараўск. 13. Уладарка. 15. Мастацтва. 17. Рэжысура. 20. Легенда. 21. Камедыя. 24. Каны. 26. Айва. 27. Сеча. 30. «ЛіМ».

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №630

Падпісана да друку 24.08.2018. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.